ПРАЛЕТАРЫІ УСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

Год выдання 39-ы
№ 42 (2503)
ПЯТНІЦА
17
ліпеня 1970 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ.

Цана 8 кап.



Уладзімір Дубоўка... Ён быў адным з маладых пачынальнікаў беларускай савецкай літаратуры.

Цяпер пра яго можна сказаць: «старэйшы», «патрыярх».

Артыкул літаратуразнаўцы Д. Бугаёва пра Ул. Дубоўку «Далягляды паэта» чытайце на стар. 6—7.

# ПЛЕНУМ ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА КАМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ САВЕЦКАГА САЮЗА

**13 ліпеня 1970 года адбыўся Пленум Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Савецкага Саюза.**

**Пленум разгледзеў пытанне аб скліканні чарговага XXIV з'езда КПСС.**

**Па гэтым пытанні на Пленуме выступіў Генеральны сакратар ЦК КПСС тав. Л. І. БРЭЖНЕЎ.**

**Пленум ЦК прыняў адпаведную пастанову.**

**Пленум разгледзеў таксама пытанні першай сесіі Вярхоўнага Савета СССР восьмага склікання.**

## АБ СКЛІКАННІ ЧАРГОВАГА XXIV З'ЕЗДА КПСС

*ПАСТАНОВА ПЛЕНУМА ЦК КПСС, прынятая 13 ліпеня 1970 года*

1. Склікаць чарговы XXIV з'езд КПСС у сакавіку 1971 года.

2. Зацвердзіць наступны парадак дня з'езда:

1) Справаздачны даклад Цэнтральнага Камітэта КПСС—дакладчык Генеральны сакратар ЦК КПСС тав. **Брэжнеў Л. І.**

2) Справаздачны даклад Цэнтральнай рэвізійнай камісіі КПСС—дакладчык старшыня Рэвізійнай камісіі тав. **Сізоў Г. Ф.**

3) Дырэктывы XXIV з'езда КПСС па пяцігадоваму плану развіцця народнай гаспадаркі СССР на 1971—1975 гады—дакладчык Старшыня Савета Міністраў СССР тав. **Касыгін А. М.**

4) Выбары цэнтральных органаў партыі.

3. Устанавіць наступныя нормы прадстаўніцтва на XXIV з'езд КПСС: адзін дэлегат з рашаючым голасам ад 2.900 членаў партыі і адзін дэлегат з дарадчым голасам ад 2.900 кандыдатаў у члены партыі.

4. Дэлегаты на XXIV з'езд КПСС выбіраюцца згодна са Статутам партыі закрытым (тайным) галасаваннем на абласных, краявых партыйных канферэнцыях і з'ездах Кампартый саюзных рэспублік. Выбары дэлегатаў на з'езд КПСС ад Кампартый Украіны, Беларусі, Узбекістана і Казахстана праводзяцца на абласных партыйных канферэнцыях.

Камуністы, якія састаяць у партыйных арганізацыях Савецкай Арміі, Ваенна-Марскога Флоту, унутраных і пагранічных войск, выбіраюць дэлегатаў на XXIV з'езд КПСС разам з адпаведнымі тэрытарыяльнымі партыйнымі арганізацыямі на абласных, краявых партканферэнцыях або з'ездах Кампартый саюзных рэспублік.

Камуністы, якія састаяць у партыйных арганізацыях часцей Савецкай Арміі і Ваенна-Марскога Флоту, што знаходзяцца за граніцай, выбіраюць дэлегатаў на XXIV з'езд КПСС на партыйных канферэнцыях адпаведных вайсковых злучэнняў.

# ПЕРАМОЖНЫМ ЛЕНІНСКІМ КУРСАМ

## ПЕРШАЯ СЕСІЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА СССР ВОСЬМАГА СКЛІКАННЯ

ЗУСІМ нядаўна, як усенароднае свята, прайшлі ў нашай краіне выбары ў Вярхоўны Савет СССР. Аддаўшы свае галасы за кандыдатаў непарушнага блоку камуністаў і беспартыйных 153 мільёны выбаршчыкаў зноў прадэманстравалі перад усім светам маналітную згуртаванасць працоўных вакол Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі, Савецкага ўрада.

Два дні — 14—15 ліпеня 1970 года ў Маскве ў Вялікім Крамлёўскім палацы засядалі народныя выбраннікі — удзельнікі першай сесіі Вярхоўнага Савета СССР восьмага склікання.

Дэпутаты выбралі Мандатныя і пастаянныя камісіі Савета Саюза і Савета Нацыянальнасцей, зацвердзілі Указы Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР.

Па прапанове Генеральнага сакратара ЦК КПСС Л. І. Брэжнева, зробленай па даручэнні ЦК КПСС, дэпутаты на сумесным пасяджэнні абедзвюх палат аднагалосна выбралі Старшынёй Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР Мікалая Віктаравіча Падгорнага.

М. В. Падгорны ад імя партыйнай групы Вярхоўнага Савета СССР і Саветаў Старэйшын палат унёс на разгляд дэпутатаў прапановы аб намесніках Старшыні, сакратару і членах Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР.

У адпаведнасці з Канстытуцыяй СССР у склад Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР было аднагалосна выбрана 15 намеснікаў старшыні — па аднаму ад кожнай саюзнай рэспублікі, сакратар Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР і 20 членаў Прэзідыума.

Сесія Вярхоўнага Савета СССР разгледзела пытанне аб урадзе СССР.

Па прапанове таварыша Л. І. Брэжнева, падтрыманай партыйнай групай Вярхоўнага Савета СССР і Саветамі Старэйшын палат, Старшынёй Савета Міністраў СССР быў зноў аднагалосна назначаны Аляксей Мікалаевіч Касыгін.

Па прадстаўленні А. М. Касыгіна Вярхоўны Савет зацвердзіў састаў урада СССР — Савет Міністраў СССР. Першымі намеснікамі Старшыні Савета Міністраў зацверджаны члены Палітбюро ЦК КПСС К. Т. Мазураў і Д. С. Палянскі.

Сесія разгледзела праект Асноў заканадаўства Саюза ССР і саюзных рэспублік аб працы і аднагалосна прыняла Закон аб зацвярджэнні Асноў заканадаўства Саюза ССР і саюзных рэспублік аб працы.

Вярхоўны Савет СССР прыняў Заявы ў сувязі з пашырэннем агрэсіі амерыканскага імперыялізму ў Індакітаі і пра становішча на Блізкім Усходзе.

Першая Сесія Вярхоўнага Савета СССР восьмага склікання, якая праходзіла ў знамянальны ленінскі год, у дні, калі камуністы, усе савецкія людзі рыхтуюцца да дваццаць чацвёртага з'езда КПСС, прадэманстравала непарушнае адзінства савецкага народа, яго адданасць ідэям камунізма.

**Па матэрыялах ТАСС.**

## УЗНАГАРОДА ВДНГ

Узнагароджана дыпломам трэцяй ступені ВДНГ СССР кінастудыя «Беларусьфільм» (дакументальная кінастужка «Пастух»), пераможца Усесаюзнага конкурсу перыядычнага друку, радыё, тэлебачання і кіно за лепшую прапаганду поспехаў краіны ў галіне палітычнага, гаспадарчага і культурнага будаўніцтва, развіцця навукі і тэхнікі, уздыму матэрыяльнага дабрабыту савецкага народа.

Стваральнікі фільма рэжысёр І. Пікман і сцэнарыст М. Замскі ўзнагароджаны Галоўным камітэтам ВДНГ СССР адпаведна сярэбраным і бронзавым медалямі.

# СТО РАДКОЎ з рэдакцыі

# ШТО ВЯЗЕШ З САБОЙ?

**На афішы было імя актрысы, якая ўжо мае добрую рэпутацыю мастацкага чытальніка з разнастайным рэпертуарам, дзе грамадзянская публіцыстыка змяняецца сатырычным вершам, а лірыка кахання — жартаўлівай байкай. І жыхары раённага мястэчка раскупілі білеты на канцэрт. Зала была поўная. І сапраўды, спачатку ўсе былі задаволены, асабліва, калі актрыса выконвала сваю праграму. Але потым яна пачала выступаць у ролі канферансье, і тут зала здзівілася: куды падзелася тое пачуццё гумару, той густ, з якімі выконваліся вершы!! Эстрадныя жартачкі «з барадой», анекдоты, як кажуць, далёка не першага гатунку, а калегі па канцэртнай брыгадзе атрымлівалі з вуснаў канферансьеркі «дасціпныя» характарыстыкі («перакана期 і непахісны халасцяк», «шукальнік нявесты і абавязкова бландзінкі» і г. д.). Музыканты ансамбля, які суправаджае гэтую групу, вымушаны былі крыўляцца, «падыгрываць» такому канферансу, прыкідвацца, нібы іх радуе або крыўдзіць «выкрыццё»... і гэта паўтаралася амаль перад кожным новым нумарам.**

**«Нас, жыхароў так званай глыбінкі, абурыла не тое, што нам прапанавалі банальшчыну, а дзіўная для сталічных артыстаў манера трымацца на эстрадзе перыферыйнага гарадка. Яны нібы і не падазравалі аб тым, што тутэйшыя людзі даўно навучыліся адрозніваць сапраўднае мастацтва ад яго сурагату і таннай халтуры», — піша нам адзін чытач з таго гарадка. Мы разумеем яго, гэтага чытача, і, шчыра кажучы, не разумеем «носьбітаў» сурагату і халтуры. Здаецца, дзеячы мастацтва ўсіх рангаў і жанраў ведаюць, што цяпер, у сярэдзіне XX стагоддзя, няма ў рэспубліцы такіх «глухіх ускраін», куды можна везці абы што, бо там, маўляў, «усё з'ядуць». Не тыя ж часы!**

**Цяпер глядач праз радыё, кіно, тэлебачанне далучаецца да хараства сапраўднага мастацтва адначасова са сталічнымі жыхарамі. Яму ёсць з чым параўноўваць. І, канечне, агульная сярэдняя адукацыя, акрамя ўсяго іншага, узнімае мастацкія густы і эстэтычныя запатрабаванні людзей. Гэта калісьці было, што недзе на вёсцы ў Палессі пасля воклічаў хлапчукоў «Артысты прыехалі!» старыя, бывала, казалі: «Што ж рабіць — ці то бялізну хаваць, ці то хлеб-соль ім несці!» Такія прыклады і дагэтуль прыводзяць у сваіх успамінах пра 20-я гады былыя галубкоўцы. Сёння́шні, глядач — адукаваны і дасведчаны — разумна і тонка ацэньвае ўсё, што яму паказваюць са сцэны.**

**Зразумела, ва ўсе часы былі і, мабыць, будуць сярод гледачоў і дылетанты. Толькі хто ж гэта будзе дагаджаць ім! І крыўдна робіцца за нашых акцёраў з філармоній, або за вядучыя тэатры рэспублікі, калі яны складаюць рэпертуар гастроляў з разлікам якраз на такую частку публікі. Скажам, колькі гадоў Магілёўскі абласны тэатр па гарадах і вёсках вазіў «Замак Броўдзі» па рамане А. Кроніна, хоць рэжысура і выканаўцы роляў даўно ведалі, што інсцэніроўка зроблена зусім спрошчаная, і спектакль даўно «хістаўся»! Аб якім творчым узроўні можна гаварыць, калі ўдзельнікі спектакля «Крымінальнае танга» Гродзенскага тэатра за чатыры тыдні гастроляў на Віцебшчыне выступілі 23 разы (часцей, чым праз дзень!). Камерцыйныя меркаванні ў такіх выпадках адсоўваюць на другі план усе астатнія. А пра «амбіцыю», пра творчае аблічча пачынаюць думаць тады, калі спектакль так састарэе, што яго сорамна іграць...**

**На жаль, часта яшчэ можна назіраць, як госці з Мінска або з абласнога горада іграюць для «тутэйшай публікі» ніжэй за свае магчымасці. Здараецца, і не па сваёй віне, а з-за таго, што дырэкцыя на гастролях ганяецца за колькаснымі паказчыкамі і «выціскае» план, адкідаючы ў бок меркаванні выхаваўчага значэння і прэстыжу трупы. Напрыклад, у мінулым нумары нашай газеты дырэктар Акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы нават абвінаваціў «Літаратуру і мастацтва» ў парушэнні... правоў кіраўніцтва тэатрам. Што ж гэта за парушэнне! Аўтар артыкула «Размова па шчырасці» спасылаецца на леташняе выказванне газеты адносна таго, што такая пагоня за колькасцю гастрольных спектакляў стамляе акцёраў, а гэта ў сваю чаргу, адмоўна адбіваецца на ідэйна-мастацкім узроўні іх выступленняў. Сапраўды, калі вы кожны вечар прымусіце іграць нават самых адмысловых майстроў «Дзесяць сутак за каханне» або хоць і добрую, але састарэлую «Лявоніху на арбіце», яны перастануць па-творчаму ставіцца да кожнага новага выхаду на сцэну, будуць механічна паўтараць завучанае або (дзеля «асвяжэння») расквечваць адсябяцінай. Гэта, дарэчы, часам і назіраецца ў названых спектаклях, асабліва ў «Лявонісе», калі яе амаль штовечар возяць з аднаго клуба ў другі...**

**«Што ты вязеш на гастролі!» — такое пытанне трэба рабіць дэвізам кожнага гастрольнага выступлення артыстаў, правяраць і змест, і форму дзейнасці «не дома». Тады будзе вышэй якасць мастацкіх твораў, а глядач і ў раённых мястэчках адчуе павагу да яго густу і яго духоўнага багацця.**

## ад пятніцы да пятніцы

# У ГЭТЫЯ ДНІ...

**...ПАЧАЎСЯ**

у Мінску Усесаюзны семінар «Прамысловая архітэктура», на які з'ехалася больш сарака архітэктараў з Масквы, Ленінграда, Ташкента, Новасібірска, Пяцігорска, Варонежа, Грознага, Душанбе і іншых гарадоў краіны.

На семінары будуць прачытаны лекцыі: «Важнейшыя напрамкі развіцця прамысловай архітэктуры», «Прамысловасць і сучаснае горадабудаўніцтва», «Прамысловыя вузлы Беларусі», «Новыя тыпы прамысловых будынкаў» і іншыя. Перад удзельнікамі семінара выступяць: сакратар праўлення Саюза архітэктараў СССР М. Кім, старшыня Дзяржбуда БССР У. Кароль, галоўны архітэктар інстытута «Белпрампраект» І. Боўт, спецыялісты ў галіне прамысловай архітэктуры.

Семінар працягнецца да 24 ліпеня.

**...АДКРЫЛАСЯ**

персанальная выстаўка твораў беларускага жывапісца М. Беляніцкага ў Дзяржаўным мастацкім музеі БССР.

На выстаўцы экспануецца звыш 130 работ мастака, які адзначае свой шасцідзесяцігадовы юбілей. Сярод палотнаў—«Першы арышт Якуба Коласа», «Паўстанне сялян у 1905 годзе», «Размініраванне пасля вайны» і іншыя.

**...УПЕРШЫНЮ**

прагучала ў эфіры песня Ігара Лучанка «Мар'іна Горка» на словы паэта Мікалая Алтухова. Кампазітар і паэт прысвяцілі яе мар'інагорскім героям-партызанам, якія загінулі ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

У гэтыя ж дні атрымала пуцёўку ў жыццё яшчэ адна песня Ігара Лучанка «Мы памяці бацькоў адданы», словы якой напісаў самадзейны паэт, выкладчык Баранавіцкай музычнай школы Юрый Багданаў. Першымі выканаўцамі песні сталі ўдзельнікі пахода па месцах баявой славы савецкага народа на Брэстчыне.

**...З ПОСПЕХАМ**

прайшлі выступленні артыстаў Дзяржаўнага тэатра лялек БССР у горадзе беларускіх шахцёраў — Салігорску. За два дні яны паказалі юным салігорцам пяць спектакляў.

Дарэчы, менавіта тут, на выязной сцэне, адбылася прэм'ера новага спектакля «Казка аб маленькім Капліку» па п'есе М. Гернета, які паставіў былы акцёр тэатра, дыпламант Ленінградскага інстытута тэатра, музыкі і кіно Мікалай Кулага.

# ПРАБЛЕМЫ ЧАСУ, ПРАБЛЕМЫ РОСТУ



М. БУЛАЎСКІ,

першы сакратар Мінскага РК КПБ

БУДЗЕЦЕ летам падлятаць да Мінска, зірніце ў акенца самалёта, горад — квадраты і прамавугольнікі камяніц, якія з вышыні выглядаюць лялечнымі — акружаны зялёным кальцом. «Кальцо» гэтае — наш Мінскі сельскі раён.

Адразу ўвяду ў курс. Плошча — 2014 квадратных кіламетраў, насельніцтва — 120 тысяч чалавек. Прафесія большасці з іх — земляробы. 47 калгасаў, саўгасаў, доследных і эксперыментальных гаспадарак штогод выдаюць «на гара» тысячы тон збожжа, бульбы, гародніны, мяса, малака і іншай сельскагаспадарчай прадукцыі.

У сельскай гаспадарцы (ды ці толькі ў сельскай) многае вызначаецца параўнаннем. Летась сярэдні ўраджай збожжа ў раёне склаў 19,4 цэнтнера з гектара, бульбы — 146, на кожныя 100 гектараў сельгасугоддзяў было атрымана па 540 цэнтнераў малака і 80 — мяса. І яшчэ адну лічбу назаву — 90 мільёнаў яек далі нашы птушкагадоўчыя гаспадаркі. Пяць гадоў назад мы мелі ўсяго гэтага на 40—50 працэнтаў меней.

Прашу ўспрымаць гэта не як пахвальбу, не як сведчанне мясцовага «патрыятызму» (хаця, між іншым, зусім нядрэнна быць патрыётам свайго горада, раёна, нават вуліцы), а як жаданне абмаляваць рэальнае становішча.

Поспехі, якіх мы дамагліся ў апошнія гады (наш раён, вядома, не выключэнне з правіла) — вынік, як гаворыцца ў дакументах ліпеньскага Пленума ЦК КПСС, ажыццяўлення выпрацаванага партыяй курсу на хімізацыю, меліярацыю зямель і комплексную механізацыю сельскагаспадарчай вытворчасці, на павышэнне эканамічных стымулаў у развіцці калгасаў і саўгасаў.

Сёння на ўзбраенні сельскіх працаўнікоў раёна, больш двух тысяч трактароў, столькі ж аўтамашын, 420 збожжавых і 166 бульбаўборачных камбайнаў і шмат іншай сельскагаспадарчай тэхнікі.

Кожны з нас добра помніць час, калі мінеральныя ўгнаенні ўжываліся, як кажуць, толькі для паху. Прыедзеш, бывала, у гаспадарку, дык толькі і чуеш — калі, маўляў, ужо дадуць нам удосталь аміячкі, суперфасфату, калійных угнаенняў...

Сёння з усім гэтым стала весялей. На кожны гектар пасеваў летась, напрыклад, было ўнесена па тры-чатыры цэнтнеры мінеральных угнаенняў.

Але галоўнае наша багацце, наш залаты фонд — людзі. Цудоўныя працаўнікі, сапраўдныя героі. Я свядома не называю прозвішчаў, бо пералічваць давялося б вельмі і вельмі доўга.

Прадбачу, што ў гэтым месцы той-сёй з чытачоў чакае гаворкі аб праблеме рабочай сілы ў вёсцы, тым больш, што раён наш прыгарадны. Сапраўды, у апошнія гады на старонках друку дыскутуецца пытанне аб міграцыі сельскага насельніцтва, асабліва моладзі, у горад. Выказваюцца самыя розныя думкі, часам дыяметральна процілеглыя. Адны гарачыя галовы рэкамендуюць адміністрацыйна забараніць міграцыю, другія — наадварот, заахвоціць яе. Мая думка— трэба вырашаць гэтую праблему вельмі асцярожна, каб не нанесці шкоды ні сельскай гаспадарцы, ні нашай прамысловасці.

Скажу адразу, у нашым раёне праблемы рабочай сілы не існуе, хоць побач сталіца. Я б мог нагадаць нямала прыкладаў, калі людзі з горада вяртаюцца ў вёску, просяць даць ім тут работу. Прычына? Няспынны рост дабрабыту вёскі. Сярэдні заробак сельскага працаўніка ў нас наблізіўся да 80—90 рублёў у месяц і мае тэндэнцыю росту ў межах прыкладна 8—9 працэнтаў у год (пры 15—17 працэнтах павышэння прадукцыйнасці працы). Нагадаю яшчэ некалькі даволі цікавых лічбаў. Сума грашовых укладаў у ашчадныя касы раёна складае зараз 24 мільёны рублёў. У нас ёсць 20 тысяч тэлевізараў, 9 тысяч матацыклаў і мапедаў, 12 тысяч газавых пліт, 6 тысяч пральных машын. Банальныя лічбы? Для таго, хто ўсё жыццё карыстаецца гэтым. Для вяскоўцаў жа — гэта прыкметы заможнага жыцця, дабрабыту, калі хочаце — гарадской цывілізацыі, якой прагнуць многія маладыя людзі.

Калі доўга працуеш на адным месцы, бываеш у адных і тых жа мясцінах, неяк прызвычайваешся, часам, не заўважаеш перамен, якія адбываюцца фактычна на тваіх вачах. І толькі калі-нікалі (пад настрой) раптам успамінаеш, што яшчэ два-тры гады назад не было, скажам, у гэтай вёсцы цяперашняй вуліцы, мураваных дамоў, дома культуры, школы... За апошнія гады ў нас вырасла некалькі пасёлкаў гарадскога тыпу з усімі выгодамі. Можна нагадаць хаця б саўгас «Волму», калгас «Новы быт», фабрыку гародніны і г. д.

Ёсць іншыя фактары, якія «трымаюць» моладзь у вёсцы. Наш раён узнагароджаны пераходнымі сцягамі аблвыканкома не толькі, скажам, за вытворчасць малака, а і за добрую падрыхтоўку школ да навучальнага года, за арганізацыю спартыўнай работы (у раёне 160 пярвічных фізкультурных арганізацый), мастацкай самадзейнасці (нашы самадзейныя артысты заваявалі шмат дыпломаў на абласных і рэспубліканскіх аглядах), кінафікацыі.

Але ці сведчыць гэта, што ўсё ў нас у ажуры? Вядома ж, не. Ёсць пэўныя цяжкасці, якія нам трэба пераадолець, ёсць праблемы, якія неабходна вырашыць. Адным словам, ёсць яшчэ да чаго прыкласці розум і рукі.

У сучасных умовах рашаючым фактарам, які вызначае далейшае развіццё сельскай гаспадаркі, з'яўляюцца інтэнсіфікацыя вытворчасці, яе тэхнічнае пераўзбраенне. Іншага шляху няма. Сапраўды, мы ўжо даўно не маем магчымасці расшыраць пасяўныя плошчы. Ды якое там — расшыраць. Пасяўныя плошчы ў нас змяншаюцца, бо на іх наступае і наступае горад.

Інтэнсіфікацыя. Узяць з зямлі ўсё, што яна можа даць. За пяцігоддзе мы мяркуем павялічыць ураджайнасць збожжа на 10—12 цэнтнераў, бульбы — удвая. Ці рэальна гэта? Рэальна. Ужо цяпер асобныя брыгады вырошчваюць па 30—35 цэнтнераў збожжа, па 300—320 — бульбы. Значыць, трэба толькі падцягнуцца да ўзроўню перадавікоў.

Калгасы і саўгасы раёна, дзякуючы росту эканомікі, маюць усе магчымасці ў новай пяцігодцы асігнаваць прыкладна ў паўтара разы больш сродкаў на капітальнае будаўніцтва і набыццё тэхнікі. Як правільна падкрэсліваецца ў дакументах ліпеньскага Пленума, тут патрабуецца актыўная дапамога будаўнічых і прамысловых міністэрстваў і ведамстваў.

Калі гаварыць пра тэхніку, дык нас часам не задавальняе яе якасць і, галоўнае, асартымент. Дагэтуль застаецца праблемай забеспячэнне машынна-трактарнага парку запчасткамі. Нагадаю толькі адзін факт — зараз у раёне прастойвае з-за адсутнасці запчастак дзесяць працэнтаў аўтамашын.

Асартымент? Вузкі. Адны і тыя ж трактары і машыны, тыя ж камбайны. А вось, скажам, камбайны «СК-4», якімі мы карысталіся дзесяцігоддзі, цяпер ўжо не задавальняюць. Пры цяперашняй ураджайнасці — 20—25 цэнтнераў — яны маламагутныя.

Вузкае месца — механізацыя вырошчвання гародніны. Па сутнасці, тут у нас па сённяшні дзень шырока ўжываецца ручная праца, асабліва на ўборцы. Няма машын для ўборкі морквы, капусты, цукровых буракоў. Словам, навукова-тэхнічная думка трохі адстае.

Калі ўжо я закрануў у нейкай ступені «ўзаемаадносіны» вёскі і горада, не магу не сказаць пра работу нарыхтоўчых арганізацый.

Атрымліваецца парадаксальная рэч — калгас цэлы год б'ецца, каб вырасціць высокі ўраджай гародніны, яблык, а ў яго пасля гэтую прадукцыю не бяруць. Гаспадарка затраціла пэўныя сродкі, працу — дзеля чаго? Каб скарміць памідоры жывёле? У 1967 годзе ледзь не палавіну яблык, памідораў і гуркоў у нас давялося скарміць свінням і каровам.

А маральны фактар? Ці захоча чалавек вырошчваць гуркі, калі ён ведае, што карысці ад гэтага амаль ніякай.

Дык мо ў нас перавытворчасць гародніны і фруктаў, мо гараджане не хочуць купляць яе? Бачу ўсмешкі. Не хапае. Ды і не вельмі танная пакуль што ў нас гародніна.

І яшчэ. Мо гэта і не мае да нас прамых адносін, ва ўсякім разе мы за гэта не адказваем, але прайсці міма нельга.

Прыедзеш на поле і не налюбуешся — гуркі, капуста, памідоры, морква — хоць на выстаўку. У магазіне на гэтую гародніну глядзець прыкра—гуркі пабітыя, памідоры падушаныя, капуста чорная. А што за дзіва—пакуль гэтая гародніна дойдзе да пакупніка, яе сем разоў перагрузяць з машыны на машыну. Я бачыў, як згружаюць каля магазіна гуркі — як бульбу, навалам. Дарэчы, бульбу вясной ў магазіне лепш не купляй. Гнілая. У горадзе сталовую бульбу хаваюць не ў спецыяльных сховішчах (іх не хапае), а ў буртах. Дзе ж яна захавае свой таварны выгляд?

Гаспадарскае вока. Яго нам часам не хапае. Трэба выхоўваць гаспадарскі падыход да ўсяго. І гэта не менш адказная задача, чым вырасціць высокі ўраджай.

Горад нам здорава дапамагае, а зараз, згодна з рашэннем Пленума, гэтая дапамога значна ўзрасце. Але ёсць яшчэ кіраўнікі, якія да зямлі, да сельскай гаспадаркі ставяцца па-спажывецку. Для іх вышэй за ўсё ведамасныя інтарэсы. Астатняе не цікавіць.

На тэрыторыі нашага раёна — больш 200 прамысловых кар'ераў. Многія з іх даўно выпрацаваны. Зараз з дапамогай закона аб зямлі (вельмі добры закон) мы прымушаем вінаватых прыводзіць гэтыя кар'еры ў парадак.

Кожны разумее — прамысловасці патрэбна сыравіна. Хто можа быць супраць? Але крыўдна, што людзі, якім даручаны яе пошук і здабыча, ставяцца часам да гэтай справы з мінімальнай адказнасцю.

Нядаўна быў такі выпадак. Адно прадпрыемства папрасіла калгас імя Гастэлы адвесці яму ўчастак зямлі для здабычы гліны, маўляў, на тым месцы вельмі добрая гліна. Гастэлаўцы, праўда, не вельмі ахвотна, згадзіліся (участак гэты вельмі ўрадлівы). І што ж? Рабочыя пакапаліся, і паехалі — аказалася, што не тая гліна, якая патрэбна.

А на землях саўгаса «Бальшавік» і калгаса імя Войкава прамыслоўцы нядаўна распачалі нейкія свае работы наогул без дазволу мясцовага кіраўніцтва...

Зямля-карміцелька. Усё яна дае чалавеку. Узамен патрабуе толькі пашаны, клопату.

У Пастанове ліпеньскага Пленума ЦК КПСС асаблівае значэнне надаецца павелічэнню вытворчасці прадукцыі жывёлагадоўлі. Усё гэта мае самае непасрэднае дачыненне да нас — раён спецыялізуецца па вытворчасці малака, мяса, яек.

Не хацелася б стамляць чытача лічбамі, але без іх не абыдзешся. Зараз у нас на кожныя 100 гектараў сельскагаспадарчых угоддзяў налічваецца 51 галава буйнай рагатай жывёлы, у тым ліку 19 кароў. У бліжэйшыя гады гэтыя лічбы значна павялічацца.

Якія цяжкасці на гэтым шляху? Па-першае, памяшканні. Жывёла стаіць у нас цесна. Пабудаваць новы кароўнік, цялятнік, свінарнік ўсё яшчэ складана. Не з-за адсутнасці сродкаў. Грошы зараз ёсць амаль ва ўсіх гаспадарках. Не паспявае за патрэбамі сяла наша будаўнічая індустрыя.

І «Міжкалгасбуд», і перасоўныя механізаваныя калоны Міністэрства сельскага будаўніцтва, на жаль, пакуль што не задавальняюць нашых патрэб. Я маю на ўвазе і тэмпы, і якасць.

У пачатку свайго расказу я назваў лічбы, што характарызуюць тэхнічнае ўзбраенне сельскай гаспадаркі раёна. На жаль, яны датычаць толькі паляводства, хаця і тут у сэнсе якасці не ўсё ў парадку. У жывёлагадоўлі пераважае ручная праца. І мне хочацца папракнуць праекціроўшчыкаў, вучоных, якія працуюць у гэтай галіне. Няма ў нас добрага праекта малочна-таварнай фермы, дзе б была не толькі поўная комплексная механізацыя працаёмкіх работ — даенне, прыгатаванне і скормліванне кармоў, ачыстка памяшкання — але і пакоі для адпачынку жывёлаводаў, душ і іншыя выгоды.

Зараз шмат гавораць і пішуць пра ўкараненне на прадпрыемствах тэхнічнай і прамысловай эстэтыкі, навуковую арганізацыю працы. Створаны навукова-даследчыя інстытуты, якія займаюцца гэтымі праблемамі. Пытанням дызайна прысвечана вялікая літаратура.

Толькі нешта не ўспомню я, каб хто пісаў пра ўкараненне вытворчай эстэтыкі, скажам, на свінаферме. Высветлена, што рабочаму спарней, лягчэй працуецца (значыць, і больш прадукцыйна), калі сцены ў цэху, абсталяванне пафарбаваны ў прыемны для вока колер, калі гучыць музыка і г. д. А на даярку, скажам, хіба гэтыя псіхалагічныя асаблівасці не распаўсюджваюцца? У яе праца — не праца?..

Праблемы, праблемы... Вялікія і малыя. Усе, вядома, не ўмесціш у цесных рамках газетных нататкаў. Хацелася б пагаварыць, напрыклад, пра забудову нашых вёсак і пасёлкаў. У нас вялікія прэтэнзіі да архітэктараў. Пакуль што ў ролі галоўных архітэктараў выступаюць кіраўнікі гаспадарак. Чаму? Таму, што няма добрых праектаў. Пры забудове пасёлка калгаса «Новы быт», напрыклад, былі выкарыстаны і эстонскія, і літоўскія, і маскоўскія праекты жылых дамоў. А што будзеш рабіць?

Хацелася б пагаварыць пра тое, як рыхтуюць кадры сельскіх спецыялістаў — аграномаў, заатэхнікаў, эканамістаў, ветурачоў. З чым прыязджаюць яны ў вёску, як дапамагаюць ім там станавіцца на ногі.

Адным словам, праблем хапае. Але ўсё гэта праблемы росту. Мы шмат чаго дамагліся, яшчэ большага дамо́жамся, бо ідзём правільным курсам, курсам, які вызначыла родная Камуністычная партыя.

# У КАМІТЭЦЕ ПА ДРУКУ

Дзяржаўны камітэт Савета Міністраў БССР па друку сумесна з Беларускім рэспубліканскім камітэтам прафсаюза работнікаў культуры і Беларускім рэспубліканскім праўленнем навукова-тэхнічнага таварыства паліграфіі прынялі пастанову аб правядзенні з 1 ліпеня па 15 снежня гэтага года рэспубліканскага конкурсу на лепшую кнігагандлёвую арганізацыю сістэмы кніжнага гандлю Дзяржкамітэта Савета Міністраў БССР па друку па выкарыстанні рэзерваў і рэжыме эканоміі. Мэта конкурсу — садзеянне далейшаму павышэнню эфектыўнасці ўсіх форм і метадаў прапаганды і распаўсюджання літаратуры.

У конкурсе ўдзельнічаюць усе шэсць аблкнігагандляў Дзяржкамітэта па друку Беларускай ССР і Рэспубліканская кніжная база.

Вынікі конкурсу будуць падведзены да 25 снежня 1970 года. Для ўзнагароджання пераможцаў конкурсу ўстаноўлены тры грашовыя прэміі: адна першая—у суме 300 рублёў, адна другая—у суме 200 рублёў, трэцяя—у суме 100 рублёў.

Калектывы-пераможцы конкурсу будуць узнагароджаны Ганаровай граматай Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па друку і Беларускага рэспубліканскага камітэта прафсаюза работнікаў культуры.

Ганаровай граматай таксама будуць узнагароджаны работнікі кнігагандляў і Рэспубліканскай кніжнай базы, а таксама грамадскія актывісты, якія найбольш вызначыліся,—нагрудным значком «Прапагандыст кнігі».

□

У 1969 годзе праходзіў усесаюзны грамадскі агляд культуры вытворчасці. Ён зрабіў вялікі ўплыў на паляпшэнне культуры ва ўсіх сферах вытворчасці.

15 паліграфічным прадпрыемствам нашай рэспублікі за дасягнутыя поспехі прысвоены ганаровыя званні «Прадпрыемства высокай культуры вытворчасці». Сярод іх—мінская друкарня «Чырвоны друкар», гомельская фабрыка «Палесдрук», Брэсцкая і Віцебская абласныя друкарні, Аршанская і Лідская гарадскія друкарні і іншыя прадпрыемствы.

Дзяржаўны камітэт Савета Міністраў БССР па друку і Беларускі рэспубліканскі камітэт прафсаюза работнікаў культуры вырашылі прыцягнуць грамадскі агляд культуры вытворчасці на прадпрыемствах паліграфічнай прамысловасці Беларусі са штогадовым падвядзеннем вынікаў.

на, што адкрыццё ў Піцеры Другога кангрэсу знайшло адлюстраванне на экране перад удзельнікамі як магутная фенаменальная карціна. Дэлегаты ўспомнілі піцерскую сустрэчу, і не раз зала ўзрывалася апладысментамі, пазнаючы знаёмыя фігуры. Асабліва ўдалымі з кінахронікі выйшлі масавыя сцэны на плошчы Урыцкага...»

Значыцца, кінастужка пра работу кангрэсу ў Петраградзе 19 ліпеня 1920 года была закончана вытворчасцю і выпушчана на экран за два тыдні! Такую б аператыўнасць нашым кіналетапісцам-сучаснікам...

□

Пра М. Ф. Казлоўскага, свайго першага настаўніка ў кіно, мне з аднолькавым захапленнем, як быццам згаварыліся, расказвалі зусім розныя людзі: заслужаны дзеяч мастацтваў БССР, аператар Уладзімір Акуліч, заслужаны артыст БССР, аператар-рэжысёр Аркадзь Кальцаты, народны артыст СССР Рыгор Рашаль. Яшчэ адно «прызнанне ў любві» да Казлоўскага давялося выслухаць ад народнай артысткі БССР Веры Пола: «У 1928 годзе я ўпершыню апынулася перад кіназдымачным апаратам. Здымаўся беларускі мастацкі фільм «Сосны гамоняць» па аповесці Анатоля Вольнага. Я ніяк не магу ўспомніць рэжысёра фільма, а вось аператара памятаю добра. Да мяне, дэбютанткі, Мікалай Феафанавіч адносіўся асабліва ўважліва, ласкава. У яго асобе—рэдкі сінтэз сапраўднага мастака і чалавека вялікай душэўнасці, асаблівага абаяння».

У чацвёртым томе Збору твораў А. Даўжэнкі, які нядаўна выйшаў з друку, зноў можна прачытаць сардэчныя словы падзякі і ўдзячнасці старэйшаму аператару. Яны былі сказаны ў студзені 1935 года тады ўжо вядомым у краіне і за мяжой рэжысёрам на Усесаюзнай нарадзе работнікаў кінематаграфіі: «Настаўнікам маім быў адзін добры чалавек—Мікалай Феафанавіч Казлоўскі, аператар... Ён мне гаварыў:

— Я табе, Сашко, даю адно залатое правіла—ніколі ў творчасці не ідзі на кампраміс... пойдзеш на кампраміс на 5 капеек, ён вырасце ў сто рублёў, і ты не будзеш ведаць, як яго расхлёбаць». Гэтага правіла і прытрымліваўся да гэтай пары, і, відаць, буду трымацца ўсё жыццё...»

□

У фільмаграфічных апісаннях дакументальных здымак У. І. Леніна, зробленых у Маскве, дзе Другі кангрэс працягваў работу, стаіць толькі адно прозвішча — Э. Цісэ. Зноў ахопліваюць сумненні. Падставы для гэтага дае газета «Известия», у якой за 8 жніўня 1920 года я прачытаў, што ў Вялікім тэатры на аб'яднаным урачыстым пасяджэнні кангрэсу, якое адкрыў М. І. Калінін, «...глядзельная зала перапоўнена зверху данізу. На сцэне і ў аркестры дугавыя ліхтары, мітусяцца **піцерскія** (падкрэслена мною.—**І. Р.**) кінематаграфісты і фатографы са сваімі апаратамі». Трэба ўважліва прыслухацца і да слоў загадчыка аддзела сацыяльнай хронікі Петраградскага фотакінакамітэта М. Грыгара, які ў сваіх успамінах (рукапіс іх захоўваецца ў аўтара гэтых нататак) сцвярджае, што ленінградская хроніка была «галоўным застрэльшчыкам і кіраўніком здымак пяці кангрэсаў Камінтэрна».

Так што пошукі нельга не працягваць...

**І. РЭЗНІК.**

Ленінград — Мінск.

---

Афіша маладога тэатра з першых дзён павінна быць цікавай і разнастайнай. Тады ён знойдзе свайго гледача і заваюе аўтарытэт. Таму калектыў сур'ёзна думае аб новых пастаноўках. Сярод іх можа быць і інсцэніроўка выдатнага рамана Аляксандра Фадзеева «Разгром».

Цяпер перад Міністэрствам культуры БССР стаіць адказная задача: нам трэба паклапаціцца аб тым, каб тэатральныя калектывы, якія пачынаюць сваё жыццё, паспяхова раслі і развіваліся. Яны могуць разлічваць таксама на падтрымку партыйных, савецкіх і грамадскіх арганізацый. Думаю, што з імі і надалей ахвотна будуць супрацоўнічаць драматургі, паэты, кампазітары.

Але нельга забываць і пра іншае. Без жадання будаваць тэатр, без гатоўнасці ахвяраваць некаторымі выгодамі і спакоем, без сапраўднага дзярзання і творчага пошуку, без пастаяннай улюбёнасці ў справу, якой ты вырашыў прысвяціць жыццё,—тэатр не пабудуеш.

Народная мудрасць гаворыць, што ў ракі можа быць тысяча рэчышчаў, але яна выбірае адно, па якім нясе свае воды ў мора. І хочацца пажадаць нашым новым тэатрам знайсці гэтае рэчышча, каб яно прывяло іх да мора вялікага мастацтва.

*ГОСЦІ МІНСКА*

# ЗОРКІ ЧАЦВЁРТАГА МАСКОЎСКАГА...

Мінчане сустрэліся з Уладзімірам Крайневым і адразу былі зачараваны гучаннем яго фартэпіяна. У фортэ яно моцнае, з сакавітымі акордамі ў пампезнай урачыстай тэме, у актаўных эпізодах —страсна драматычнае, а пералівы акампанементу ў піяна нагадвалі пераклічку сярэбраных званочкаў... Першы канцэрт Чайкоўскага, здаецца, усе ведаюць гэтую непаўторную музыку. Лаўрэат IV Маскоўскага Міжнароднага конкурсу імя П.І. Чайкоўскага У. Крайнеў выконваў яго надзвычай паэтычна. Усё тут было на вышэйшым узроўні выканаўчага мастацтва — нібы віхура, скерца, якое звязвае эпізоды, грацыёзны вальс, выразны рытмічны малюнак галоўнай танцавальнай тэмы — усё гэта праменіла і струменіла пад пальцамі натхнёнага майстра. Толькі ў эпізодзе, які з'яўляецца нібы мастком паміж тэматычнымі пераходамі, інструмент не зусім быў зworking знітаваны з аркестрам. А ў цэлым аркестр пад кіраўніцтвам дырыжора В. Катаева выступаў у ансамблі з салістам, у ім выдатна прагучалі партыі віяланчэлі, габоя і флейты. Багацце і хараство музычнай лірыкі раскрыў У. Крайнеў у нумарах на «біс» — «Пралеска» Чайкоўскага і на дзіва вобразны ля-мінорны эцюд Шапэна прагучалі бездакорна. Гэтаму музыканту ўласціва цяга да камернага, празрыстага гучання, дзе пераважаюць нюансы піяна... Тут ён — чараўнік!

Калі перад мінчанамі выступаў англічанін Джон Ліл, які падзяліў з У. Крайневым першую прэмію на IV Маскоўскім, мы адчулі індывідуальнасць крыху іншага складу. Тэхнічная падрыхтоўка яго, на мой погляд, фенаменальная, «апарат» піяніста зусім свабодны, нічым не скаваны, і ўражанне застаецца такое, быццам зараз, на нашых вачах, ён адкрывае для сябе і нас хараство музыкі. Хай сабе Джон Ліл не заўсёды пераконвае знаўцаў у «правільнасці» сваіх трактовак, захапляе ж ён і самых пераборлівых крытыкаў. Канцэрт ён пачаў з выканання 17-й рэ-мажорнай санаты Моцарта, у першай частцы якой цудоўна перадаў дух «палявання», быў па-лірычнаму засяроджаны ў другой і светлы ў абодвух музычных вобразах — і ў спакойным светлым мажорным, і ў трапяткім па сваіх інтанацыях мінорным.

Многа новага гаворыць піяніст аб істотных матывах творчасці Бетховена. Скажам, рэ-мінорную санату ён выконвае неяк прасветлена, не падкрэсліваючы ў ёй празмерны драматызм эмацыянальнага стану героя. А вось з выкананнем Першай балады Шапэна цяжка пагадзіцца ва ўсім, што прапануе Джон Ліл, — нестае яму артыстычнай свабоды і нават такой натуральнай у баладзе цеплыні пачуццяў. Затое ён быў зноў яркі, калі выконваў «проста і спакойна» (а на гэта ўказвае Шапэн) Чацвёрты накцюрн, асабліва яго бурную сярэднюю частку.

Слухачы, мабыць, ніколі не забудуць спеву інструмента, калі музыкант выконваў Сёмую санату Пракоф'ева: ён выявіў напорыстасць галоўнай тэмы, падкрэсліў яе «жалезны» рытм, раскрыў агульную каларытную вобразнасць. Галоўная інтанацыя — асцінатная папеўка на дзвюх нотах — цудоўна была разгорнута Джонам Лілам у дынамічных адносінах. Здзіўляе і радуе імклівасць бегу восьмых у памеры 7/8, што дапамагае выканаўцу даць рэльефны мастацкі вобраз.

Англічанін паказаў сябе віртуозам і ў рускай шырыні пракоф'еўскай санаты, і ў стрыманых шчырых шуманаўскіх «Летуценнях», і ў ажурным «Карагодзе гномаў» Ліста.

Скрыпачка Ліяна Ісакадзе (трэцяя прэмія) паланіла аўдыторыю санатай Лакатэлі, якая гучыць пад яе смыком вельмі высакародна і строга. Яна адцяніла кульмінацыйныя раздзелы твора і эмацыянальна пранікнёна аб'яднала іх у адзіную плынь змястоўнага роздуму чалавека. У першай частцы «Крэйцаравай» санаты Бетховена скрыпачка захапіла нас валявой імклівасцю і ўнутраным драматызмам гэтага неспакойнага маналога-споведзі. Вобразна падкрэсліла Л. Ісакадзе пікантныя трыолі, затрымала ўвагу на лёгкіх «карунках» шаснаццатых, засяродзілася на лёгкім смутку, а потым аддалася патоку радасці ў гарачай тарантэле. Высокі ўзровень музыцыравання і на дзіва рэдкая шчырасць скрыпачкі адчуваліся ў выкананні п'ес Чайкоўскага, Паганіні і дэ Фалья. На «біс» была сыграна рэдкая на канцэртнай эстрадзе «Калыханка» Фарэ, якая была праспявана скрыпкай шчодра і задуменна.

Тры вечары — тры сустрэчы з трыма зоркамі Маскоўскага конкурсу.

Мы папрасілі музыкантаў расказаць чытачам газеты «Літаратура і мастацтва» аб сабе, аб конкурсе, падзяліцца думкамі аб сваёй прафесіі.

**Станіслаў МАДОРСКІ.**

## Уладзімір КРАЙНЕЎ:



— Да паступлення ў Маскоўскую кансерваторыю я вучыўся ў М. Іцігінай і ў сталічнай Цэнтральнай школе ў А. Сумбацян (дарэчы, яна выхавала адзінаццаць будучых лаўрэатаў розных конкурсаў). Маім настаўнікам у кансерваторыі быў Генрых Нейгауз, які «ставіў на ногі» чалавека - музыканта, клапаціўся аб фарміраванні мастакоўскай асобы. Ён патрабаваў, каб студэнт цікавіўся філасофіяй, выяўленчым мастацтвам, паэзіяй. Гэты педагог выдатна разгадваў індывідуальнасць вучня. І як садоўнік, сачыў за тым, каб гэтая індывідуальнасць вырасла ў арыгінальнага і самастойнага мастака.

Мне давялося выступаць на розных конкурсах — у англійскім горадзе Лідсе (другое месца), у Лісабоне (першая прэмія)... Павінен сказаць, што наш Маскоўскі чацвёрты быў самым адказным і цяжкім выпрабаваннем. На маю думку, надзвычай паспяхова выступілі на ім Джон Ліл, Руцьерас, Марэйра-Ліма. Пра савецкіх музыкантаў няма чаго гаварыць — наша піяністычная школа ва ўсім свеце прызнана самай перадавой. Зразумела, атрымаць на такім конкурсе першы прыз, падзяліўшы яго з Лілам, для мяне было вялікай радасцю і падзеяй.

У Мінску добры сімфанічны аркестр. Мы сустрэліся з ім другі раз. Радуе, што знайшлі агульную мову і ігралі, як мне здаецца, у духоўным кантакце. Аркестр дапамагаў мне трымацца на той вышыні паэзіі, якую я так імкнуўся перадаць у Першым канцэрце Чайкоўскага.

## Джон ЛІЛ:



— Калі не памыляюся, на фартэпіяна іграю з чатырох гадоў. У дзевяць гадоў даў першы адкрыты канцэрт. Не думайце, што я выхваляюся; гэта, мабыць, нешта характарызуе ў маёй творчасці цяпер. У чатырнаццаць гадоў я ведаў усе творы Бетховена. Калі займаўся ў коледжы, заваяваў многа розных прызоў. І не спыняўся ў сваім паглыбленні ў свет музыкі — чытаў, рэпеціраваў, іграў, слухаў... Без гэтага штодзённага жыцця ў музыцы я не магу цяпер уявіць самога сябе.

Ехаць у Савецкі Саюз мне не раілі, адгаворвалі. Казалі, быццам у вашай краіне не можа быць аб'ектыўнасці. І мяне, шчыра прызнаюся, узрушыла да глыбіні душы ацэнка журы. Асабіста я вылучыў бы сярод піяністаў Крайнева, Постнікаву, Сявідава — гэта цікавыя і яркія індывідуальнасці ў мастацтве фартэпіяннай ігры.

Мне вельмі спадабаліся гарады, дзе я іграў пасля Масквы, — Ульянаўск, Рыга, Вільнюс, Кіеў. З Мінска я вязу з сабою на радзіму самыя добрыя ўражанні. Наогул, для поспеху канцэрта ў любым горадзе патрэбны тры рэчы—па-музычнаму чулая публіка, адпаведная зала і добры інструмент. Усё гэта і было ў вашым прыгожым і гасцінным горадзе. Я адчуваў добразычлівасць да мяне ў філарманічнай зале і таму стараўся іграць, як кажуць, ад сэрца. Як атрымалася, не ведаю. Бо зала прымусіла мяне адказваць потым на такія гарачыя апладысменты!..

У Англіі я выкладаю ў музычным коледжы. У мяне пяць вучняў, з якімі я займаюся раз у тыдзень. Самым галоўным для музычнага педагога я лічу ўменне навучыць выхаванца самастойна мысліць. Вядома, і тэхнічны апарат патрабуе ўдасканалення—важна, каб рукі і корпус піяніста былі свабодныя. Тады музыкант можа выканаць усе ўказанні, дадзеныя кампазітарам у нотах.

Мае куміры — Рыхтэр, Гілельс, Горавіц, Эраў.

Да музыкі авангардыстаў я стаўлюся рэзка адмоўна. Відаць, вельмі часта яны нешта шукаюць дзеля таго, каб праславіцца ў якасці... шукальнікаў. Плёну культуры гэта не дае. З класікаў мне асабліва дарагія Бетховен і Брамс, з сучасных аўтараў — Пракоф'еў, Хіндэміт, Стравінскі, Шэнберг, Шастаковіч, Бартак. У маім рэпертуары 45 канцэртаў і столькі ж сольных праграм. Гастраліраваў, здаецца, па ўсім свеце. У красавіку наступнага года збіраюся зноў прыехаць да вас і сыграць з мінскім аркестрам Пяты канцэрт Пракоф'ева і Другі — Брамса. Спадзяюся, што так яно і будзе. Мінск — такі горад, куды хочацца прыехаць зноў.

## Ліяна ІСАКАДЗЕ:



— Усхвалявана, узрадавана! Ваш горад і сапраўды вельмі музычны. У каго я вучылася? Першы мой настаўнік прафесар Лео Шыукашвілі. Так, у Тбілісі. А потым Масква. Удзельнічала ў VI Сусветным фестывалі моладзі. Калі мне было чатырнаццаць гадоў, я «парушыла правілы» і выступіла ва Усесаюзным конкурсе, на які дапускаюцца музыканты з семнаццаці гадоў. Ага, вы не памыляецеся, заваявала другую прэмію. Мой самы вялікі поспех? Ну, я лічу, што гэта Залаты медаль на конкурсе імя Жака Цібо ў Парыжы. Сем гадоў займалася ў Давіда Ойстраха, у яго ж скончыла і аспірантуру.

Дзе выступаю? О, вандравала па ўсім Савецкім Саюзе, ездзіла ў Францыю, Польшчу, Мексіку, Галандыю... Не, відаць, без геаграфічнай карты ўсе маршруты назваць не здолею, а яе няма пад рукою. Паверце на слова — свет пабачыла. І заўсёды хвалююся, калі іграю і калі мне апладзіруюць.

Зразумела, самым вялікім напружаннем было тое, што мы ўсе перажывалі на IV Маскоўскім конкурсе імя Чайкоўскага. Падбор скрыпачоў быў вельмі моцны. Для сябе я адкрыла цікавыя таленты і арыгінальныя трактоўкі твораў, якія, здавалася б, раней ведала дасканала. Што гэта азначае? Спакой нам толькі сніцца — ніякія лаўры не даюць права адпачываць. Ах, працуй і працуй! А потым на эстрадзе выступай так, каб ніхто не здагадаўся, якой цаной даецца табе лёгкасць. Што вы кажаце? Я іграла лёгка? Ну што ж, дзякуй за камплімент. Пастараюся яго помніць і на конкурсе імя Сібеліуса, да якога ўжо рыхтуюся. Так, увосень паеду ў краіну Суомі, зноў спаборнічаць. А ў вас, у Мінску, здаецца, трошкі адпачыла. Таму і не забуду мінчан. Мабыць мы яшчэ не раз сустрэнемся...

Дзмітрый БУГАЁЎ

# ДАЛЯГЛЯДЫ ПАЭТА

**15 ліпеня споўнілася 70 гадоў з дня нараджэння нашага старэйшага паэта Уладзіміра Мікалаевіча Дубоўкі. У дзень юбілею яго сардэчна прывіталі беларускія пісьменнікі. Праўленне Саюза пісьменнікаў БССР накіравала юбіляру віншавальны адрас, у якім гаворыцца:**

**«Дарагі Уладзімір Мікалаевіч!**

**Горача вітаем Вас і шлём Вам свае сардэчныя віншаванні ў дзень Вашага сямідзесяцігоддзя!**

**Вось ужо амаль паўвека працуеце Вы на ніве роднай літаратуры. Працуеце натхнёна і плённа. Ваша паэзія прасякнута любоўю да роднага краю, роднай прыроды, да чалавека працы, да скарбніц вуснай народнай творчасці. У апошні час Вы шмат сіл аддаеце працы для нашага юнага чытача, і Вашы творы карыстаюцца ў яго шырокай вядомасцю. Мы высока цэнім таксама і Вашу перакладчыцкую дзейнасць: дзякуючы Вашаму пяру на беларускай мове загучалі шмат якія творы Пушкіна, Шэкспіра, Шэлі, Байрана...**

**Аддаем Вам належнае як аднаму са старэйшын нашай сучаснай беларускай літаратуры і жадаем, паважаны Уладзімір Мікалаевіч, добрага здароўя і новых творчых здабыткаў!»**

Рэдакцыя штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва», далучаючыся да гэтага віншавання, у сваю чаргу вітае Уладзіміра Мікалаевіча і жадае яму доўгіх гадоў жыцця і пленнай працы на карысць роднай літаратуры, роднага народа.

Уладзіміру Мікалаевічу Дубоўку—семдзесят гадоў. За плячыма паэта — вялікі і складаны шлях жыцця і творчасці. Важнымі этапамі на гэтым шляху сталі такія падзеі асабістай біяграфіі Дубоўкі, як вучоба ў Нова-Вілейскай настаўніцкай семінарыі, а затым у Маскоўскім універсітэце і Вышэйшым літаратурна-мастацкім інстытуце імя В. Я. Брусава, настаўніцкая праца на Тульшчыне ў перыяд грамадзянскай вайны, служба ў Чырвонай Арміі ў 1920—1921 гадах, работа ў якасці метадыста і цэнтральнага інспектара беларускіх школ РСФСР, у якасці сакратара Пастаяннага прадстаўніцтва Беларусі ў Маскве і рэдактара беларускага тэксту Збору законаў Саюза ССР, выкладчыцкая дзейнасць у Камуністычным універсітэце народаў Захаду.

Уладзімір Дубоўка быў таксама першым рэдактарам часопіса «Беларускі піянер», адказным сакратаром Цэнтральнага бюро «Маладняка», пазней шмат увагі і сіл аддаваў часопісу «Узвышша», актыўна ўдзельнічаў у рабоце аднайменнай літаратурнай арганізацыі.

Першыя вершы Уладзіміра Дубоўкі паявіліся яшчэ ў 1921 годзе. Затым адна за другой выходзяць кнігі паэта—«Строма» (1923), «Там, дзе кіпарысы» (1925), «Трысцё» (1925), «Credo» (1926), «Наля» (1927). Гэтыя кнігі мелі даволі шырокі грамадскі рэзананс. Яны вылучылі Уладзіміра Дубоўку ў шэрагі самых прыкметных паэтаў дваццатых гадоў. Вось характэрныя водгукі тагачаснага друку.

«Трысцё» Уладзіміра Дубоўкі,—з захапленнем пісаў таленавіты крытык і блізкі сябра паэта Адам Бабарэка,—...шуміць на сённяшняй вяршыні беларускай мастацкай творчасці і звоніць песняю аб заўтрашняй».

«Уладзімір Дубоўка мастацтвам сваіх лірычных вершаў і паэмак заняў ужо адно з самых першых месц у беларускай паэзіі. У яго творчасці — глыбіня, музыкальнасць, свядомае характва»,—падкрэсліваў літаратуразнаўца і празаік Максім Гарэцкі.

Усё гэта гаварылася ў Беларусі. Не менш узнёсла адгукаліся пра Дубоўку і на Украіне. Напрыклад, украінскі літаратар М. Йогансен, які з поспехам выступаў як празаік, паэт і літаратурны крытык, знаходзіў надзвычайную лірычную сілу ў вершах нашага паэта і сведчыў, што тады, як толькі ўзнікала маладая беларуская рэвалюцыйная літаратура, звычайна гаварылася: «—Хто ж у вас? Адзін Дубоўка! Цяпер ёсць багата, але Дубоўка ўсё ж такі адзін».

Зразумела, у некаторых мясцінах з гэтых выказванняў ёсць пэўныя і зусім прыкметныя перабольшанні. Так, Уладзімір Дубоўка ў пачатку дваццатых гадоў не быў не толькі адзіным, але і не самым вядомым маладым паэтам. У 1921 годзе, калі ён толькі пачынаў свой пісьменніцкі шлях, Міхась Чарот, напрыклад, напісаў ужо «Босыя на вогнішчы», твор, які ўвайшоў у гісторыю нашай літаратуры пад назвай першай Кастрычніцкай паэмы на Беларусі і з'яўляецца адным з узораў беларускага паэтычнага эпасу, прысвечанага рэвалюцыі. Але Дубоўка сапраўды належаў да найбольш таленавітых, арыгінальных і творча актыўных тагачасных песняроў новага жыцця. Яго паэзія, як і паэзія М. Чарота, А. Александровіча, А. Дудара, П. Труса, Я. Пушчы і іншых маладых літаратараў дваццатых гадоў, была народжана тым велічным уздымам, які выклікала ў духоўным жыцці народа Кастрычніцкая рэвалюцыя. Іх творчасць, не заўсёды сталая ў мастацкіх адносінах, адлюстроўвала дух часу, яго велічныя ідэалы. І ў гэтым яе сіла, яе прывабнасць і для сённяшняга чытача. А лепшыя творы Уладзіміра Дубоўкі, напісаныя яшчэ ў першай палове дваццатых гадоў, калі ён быў маладнякоўцам не толькі ў фармальным, мастацкім сэнсе, як член адпаведнай літаратурнай арганізацыі, але і па самім характары паэтычнага светаадчування, — гэтыя творы хвалююць нас як самім пафасам аўтара, яго глыбокай верай у перамогу камуністычных ідэалаў, так і сваёй уласна мастацкай дасканаласцю, уменнем паэта горача, усхвалявана і разам з тым моцна і важка, сапраўды паэтычна выказваць запаветныя думкі і пачуцці.

Вялікай паэтычнай сілай вылучаецца папулярны ў свой час верш Уладзіміра Дубоўкі «О Беларусь, мая шыпшына», у якім добра выявілася палымяная мара песняра аб камуністычнай будучыні радзімы.

О Беларусь, мая шыпшына,
зялёны ліст, чырвоны цвет!
У ветры дзікім не загінеш,
чарнобылем не зарасцеш.

Пялёсткамі тваімі стану,
на дзіды сэрца накалю.
Тваіх вачэй, пад колер сталі,
праменне яснае люблю.

Ніколі пройме з дзікім ветрам
не развіваць дзявочых кос.
Імкнешся да Камуны Свету,
каб радасць красавала скрозь. —

натхнёна пісаў Уладзімір Дубоўка, звяртаючыся да маладой Беларусі, якая з энтузіязмам будавала новае жыццё. У гэтым творы аўтар трапна выкарыстоўвае агульнарэвалюцыйную і нацыянальную сімволіку, дасягае іх арганічнага і вельмі натуральнага адзінства. Зялёны і чырвоны—такія колеры, колеры лясной ружы-шыпшыны, асэнсаваныя паэтам як колеры рэвалюцыйнага змагання і вечна маладога жыцця, сталі для Дубоўкі ўвасабленнем і найбольш яркімі прыкметамі яго абноўленага Кастрычніцкай рэвалюцыяй краю.

Прываблівае ў паэзіі Уладзіміра Дубоўкі дваццатых гадоў, узятай у яе лепшых узорах, тонкая інструментоўка вершаванага радка, увогуле высокая культура паэтычнага мыслення.

Асабліва звяртаюць на сябе ўвагу нярэдкія ў вершах маладога Дубоўкі асацыятыўныя збліжэнні разнаякасных паняццяў—зусім канкрэтных і даволі абстрактных («На свеце гора блудзіць, як шляхта ля чужых хлявоў», «Паветра душыцца спякотай, як пылам над сахой ратай», «Цярушацца думкі наўсцяж, як зярняты у глебу» і інш).

З жаданнем асвойваць новыя пласты жыцця, рабіць іх паўнапраўнай сферай паэзіі звязана і відавочная схільнасць Уладзіміра Дубоўкі да навуковай лексікі, якая адносна шырока прадстаўлена ў яго творах дваццатых гадоў. Нават паэзія кахання, якой Дубоўка ў дваццатыя гады аддаваў шчодрую, палемічна падкрэсленую даніну, часам не без поспеху аздабляецца навуковай тэрміналогіяй.

Сённяшняга чытача гэтым, вядома, не здзівіш. А ў тых умовах, калі пісаў Дубоўка, усё гэта было якраз нязвыклым і ў сваёй нязвыкласці несла значны паэтычны зарад.

Свядома імкнуўся Уладзімір Дубоўка ў 20-я гады абнаўляць і жанравыя формы нашай паэзіі, што асабліва выразна выявілася ў вершаваным цыкле «Крыху восені і жменька кляновых лістоў» (1929) і ў паэмах «Кругі» (1927), «І пурпуровых ветразей узвівы» (1929), «Штурмуйце будучыні аванпосты» (1929). Гэтыя тры паэмы—вельмі значныя і арыгінальныя творы маладой беларускай паэзіі канца 20-х гадоў. Аўтар імкнуўся адказаць на пытанне аб сутнасці чалавечага шчасця, аб тым, якімі шляхамі можна прыйсці да яго.

У сваім агульным выглядзе гэта старая, як свет, праблема. Але паэт менш за ўсё быў схільны да абстрактнага філасофствавання. Агульныя філасофскія праблемы ў паэмах Дубоўкі маюць выразную праекцыю на канкрэтную рэчаіснасць дваццатых гадоў. Таму яго паэмы пры ўсёй сваёй філасофскай заглыбленасці адказваюць на пытанні, якія самім ходам тагачаснага грамадскага жыцця вылучаліся на першы план, набывалі тады асаблівую вастрыню і актуальнасць, літаральна насіліся ў паветры.

Ён славіў веліч рэвалюцыі, якая адкрыла перад людзьмі працы небывалыя далягляды, разважаў пра лёс мастацтва і шляхі яго развіцця ў сацыялістычным грамадстве, гаварыў пра індустрыялізацыю краіны і калектывізацыю яе сельскай гаспадаркі.

І аб калектывізацыі, і аб форме і змесце сацыялістычнага мастацтва, і аб іншых больш прыватных рэчах Уладзімір Дубоўка пісаў з палемічнай заўзятасцю і запалам, як гэта і звычайна бывае ў абвостраных спрэчках па яшчэ не вырашаных самім жыццём праблемах.

На некаторыя з пастаўленых пытанняў паэт не даў канчатковага, вычарпальнага адказу, бо яго яшчэ не давала сама тагачасная рэчаіснасць. А ў такім разе нельга патрабаваць ад пісьменніка немагчымага. Аднак заслуга Дубоўкі заключаецца ў тым, што ён у паэмах «Кругі», «І пурпуровых ветразей узвівы», «Штурмуйце будучыні аванпосты» ўзняў складаныя праблемы часу і па меры сваіх сіл і магчымасцей імкнуўся на іх адказаць. Зрэшты, Дубоўка ўвогуле правільна адчуў агульны кірунак вырашэння гэтых складаных праблем. Ён горача абараняў думку пра тое, што толькі новыя, сацыялістычныя формы жыцця могуць даць чалавеку сапраўднае шчасце, знішчыць «усякі прыгон—над духам, над сэрцам, над чынам», прывядуць да перамогі калектывізму над індывідуалістычнай псіхалогіяй, перамогі, якой страсна жадаў паэт.

І ў гэтую перамогу новых, вышэйшых форм жыцця свой уклад павінны ўнесці «меліяратары духу», пісьменнікі, увогуле мастацтва, калі яно аддасць сябе на службу народных інтарэсаў і не будзе баяцца пошукаў, стане смела пракладваць новыя шляхі да пазнання свету і чалавека.

Трэба адзначыць, што Дубоўка не толькі тэарэтычна абараняў права мастацтва на пошук. Ён вельмі актыўна выкарыстоўваў гэта права ў сваёй пісьменніцкай практыцы. Якраз пошукі новых жанравых форм многае вызначылі і ў паэмах «Кругі», «І пурпуровых ветразей узвівы», «Штурмуйце будучыні аванпосты», цалкам абумовіўшы, у прыватнасці, іх кампазіцыю.

Паэма, саната, санет —
асадкі мінулага часу!
У новыя ўправіць паэт
сучаснасці нашай акрасу, —

з яўнымі палемічнымі перахлёстамі заяўляў Дубоўка ў вершаванай прадмове да паэмы «Штурмуйце будучыні аванпосты», якой даў жанравае вызначэнне **камбайн.**

Паэт дасягнуў у сваім «камбайне» пэўнага ўнутранага адзінства. Разнародныя структурныя элементы ў гэтым творы, як і ў паэмах «Кругі», «І пурпуровых ветразей узвівы», знаходзяцца ў складаным шчапленні, узаемадзейнічаюць адзін з другім. Захоўваючы адносную самастойнасць і ўнутраную цэласнасць, яны падпарадкаваны агульнай ідэі твора, яго пафасу, але выяўляюць розныя адценні аўтарскай думкі.

Аднак у цэлым кампазіцыйная арганізацыя паэмы «Штурмуйце будучыні аванпосты» і ў пэўнай меры паэм «Кругі», «І пурпуровых ветразей узвівы» аказалася залішне ўскладнёнай. І гэтыя творы пры ўсёй іх бясспрэчнай праблемнай, грамадска-філасофскай значнасці і этапнай ролі для самога аўтара засталіся ў фармальных адносінах шмат у чым эксперыментальнымі.

Праўда, сённяшняя практыка шматлікіх і самых розных пісьменнікаў паказвае, што ў кампазіцыі мастацкіх твораў цяпер увогуле многае ўскладняецца, выступае як вынік намаганняў мастака ахапіць жыццё ва ўсёй яго шматграннасці і дыялектычнай супярэчлівасці. Але Дубоўкавы эксперыменты ў галіне формы, пачатыя паэмамі «Кругі», «І пурпуровых ветразей узвівы», «Штурмуйце будучыні аванпосты», па розных прычынах, сярод якіх наўрад ці можна адмаўляць і прычыны творчага парадку, пазней не былі сур'ёзна прадоўжаны ні ім самім, ні іншымі савецкімі літаратарамі.

Не ўвайшлі ў шырокі літаратурны ўжытак і «вершы з заўвагамі». Гэтую залішне груваcткую форму, перанятую ад афармлення навуковых даследаванняў, зноў жа адкінула жывая паэтычная практыка, хаця сам Дубоўка ў пасляваеннай «Палескай рапсодыі» аднойчы яшчэ спрабаваў даваць вершаваныя зноскі да асноўнага паэтычнага тэксту.

Зусім не далі плёну і такія ўжо цалкам рызыкоўныя эксперыменты маладога Дубоўкі, як знарочысты разрыў слова на часткі, з якіх адна пакідалася ў канцы радка для рыфмы, а другая пераносілася ў наступны радок. Вопыт такога залішне штучнага пераносу Дубоўка ўжыў у першых варыянтах паэмы «Браніслава», якая потым некалькі разоў перапрацоўвалася і ў сваім кананічным выглядзе належыць да лепшых здабыткаў беларускай паэзіі.

Увогуле, першае дзесяцігоддзе пісьменніцкай працы было для Дубоўкі ў цэлым вельмі плённым. Яго творчасць гэтай пары, не зважаючы на некаторыя яе крайнасці і пралікі, была яркай з'явай маладой савецкай літаратуры, народжанай Кастрычнікам.

Актыўна ўмешваўся Дубоўка ў тыя гады ў грамадстве і асабліва літаратурна-культурнае жыццё Беларусі. Ён пісаў артыкулы пра фальклор і музыку, пра выяўленчае мастацтва і багацці жывой народнай і літаратурнай мовы, пра эканомнасць нашай графікі і нацыянальную сістэму стэнаграфіі, пра кінавытворчасць і асушэнне балот. Усё гэта таксама заслугоўвае добрага слова, бо сведчыць пра жаданне паэта дапамагчы поступу агульнай справы не толькі сваёй паэтычнай творчасцю, але і канкрэтнай парадай, разважлівай думкай ці пастаноўкай актуальнай праблемы, якая патрабавала свайго неадкладнага вырашэння.

У самым пачатку 30-х гадоў Уладзіміру Дубоўку давялося надоўга перамяніць прафесію, навучыцца іграць «рыдлёўкай на ліры». «На даволі працяглы час,—зазначае пісьменнік у сваёй аўтабіяграфіі пад характэрным загалоўкам «Сярод добрых людзей», —я пераключыўся на іншыя, досыць далёкія ад літаратуры работы, у тым ліку і на будаўнічыя. Пры гэтым пабыў і на Вятцы, і на Волзе, і ў Бірабіджане, а пасля 1949 года—у Краснаярскім краі, на рацэ Бірусе. Працаваў на розных вялікіх будоўлях, авалодаў многімі спецыяльнасцямі. Адзін пералік іх сягае вышэй двух дзесяткаў. Але больш за ўсё працаваў тынкавальшчыкам, мулярам, маляром, сталяром. Па гэтай спецыяльнасці—сталярнай—гадоў дзесяць (і дзед і бацька мой, пакуль не пакалечыўся, былі добрымі сталярамі, і я таксама нядрэнна валодаў гэтым рамяством). Даводзілася бываць і на лёгкіх работах: бухгалтарам, эканамістам.

Вярнуўшыся са сваіх блуканняў у 1958 годзе, я зноў заняўся літаратурнай працай».

Уладзімір Дубоўка стварае вершаваныя цыклы «Чакае ля берагу човен мяне» (па сутнасці, гэта лірычная паэма, напісаная ў 1958 годзе), «Пасля вандравання» (1958—1959), «Палеская рапсодыя» (1959), «Светлыя ўспаміны» (1957—1961), «Дактылічныя рытмы» (1966), паэмы «Перад іменем Любові» (1958) і «Беларуская Арыядна» (1960), а таксама некалькі цікавых балад.

Найбольш арыгінальнай сярод паэтычных цыклаў з'яўляецца вялікая нізка «Палеская рапсодыя». Гэтая нізка напісана ў выніку падарожжа Дубоўкі па Прыпяці ўлетку 1959 года. Яна складае аснову аднайменнай кнігі, за якую паэт атрымаў рэспубліканскую літаратурную прэмію імя Янкі Купалы.

Натуральна, што ў «Палескай рапсодыі» Дубоўку ў першую чаргу цікавіць воблік сённяшняга Палесся, яго людзі — будаўнікі камунізма. Але не абыходзіць ён і мінулае палескага краю, яго гісторыю, яго фальклор і міфалогію, яго прыроду і нават этнаграфію. Такім чынам, Палессе ў вершах Уладзіміра Дубоўкі паўстае ва ўсёй сваёй сінтэтыч-

насці, з усімі гістарычнымі і прыроднымі кантрастамі. Паказваючы іх, паэт славіць веліч і сілу, славу і мудрасць народа, яго стваральную працу, мужнасць, дабрату і высокую чалавечнасць. У гэтым і заключаецца глыбока патрыятычны пафас «Палескай рапсодыі».

Патрыятычныя пачуцці Дубоўкі нарадзілі і нямала іншых твораў, дзе выявілася ўменне адным радком, але вельмі сур'ёзна, пераконана сказаць і пра выключную ролю роднай мовы ў духоўным жыцці нацыі, і пра аптымізм агульнага погляду на народ, на яго будучыню, і філасофская абагульненасць гуманістычнай думкі з яе афарыстычнай трапнасцю.

Увогуле, для Дубоўкі ўласціва арганічнае адчуванне сапраўднай народнасці. Гэта з асаблівай нагляднасцю выяўляецца ў апрацоўках фальклорных сюжэтаў, якімі паэт актыўна і плённа займаецца ў пасляваенныя гады. Гутарка ідзе не пра шматлікія ўстаўкі фальклорнага паходжання, што было звычайным для маладога Дубоўкі, а пра напісаныя паводле народных матываў вершаваныя казкі. Яны змешчаны ў кнігах «Цудоўная знаходка» (1960), «Кветкі—сонцавы дзеткі» (1963) і інш. У зробленых аўтарам апрацоўках выразна заўважаецца не толькі яго высокі паэтычны прафесіяналізм, але і бясспрэчная блізкасць да народнага светаўспрымання. Яна, гэтая блізкасць, і дазваляе пісьменніку з поспехам выконваць яго толькі на першы погляд нескладаную задачу, дае магчымасць пазбягаць спрошчана-прымітыўнага пераказу народных сюжэтаў, пры якім можа быць цалкам вынішчана іх вельмі своеасаблівая паэтычнасць, іх жывая непаўторная душа. У казках Дубоўкі ўсё гэта беражліва захавана. І гэта галоўнае.

Выбіраючы фальклорныя творы для пераказу вершам, паэт абавязкова звяртае ўвагу і на іх выхаваўчыя аспекты, на іх патэнцыяльную здольнасць аказваць станоўчы ўплыў на сучасную моладзь.

Можа яшчэ ў большай меры непасрэдна практычна-прыкладныя мэты ставіў аўтар у сваіх празаічных кнігах «Жоўтая акацыя» (1967) і «Ганна Алелька» (1969); (апошні твор часам упамінаецца пад сваёй першапачатковай рабочай назвай—«Думка думку паганяе»). Мэты гэтыя—зацікавіць чытачоў доследніцтвам самага рознага характару, навучыць іх з гаспадарскім клопатам ставіцца да навакольнай прыроды, да ўсіх багаццяў роднага краю.

Аўтар, вядома, мае і сваю звышзадачу. Яна заключаецца ў тым, каб неназойліва давесці думку, што і «каля нашых блакітных азёр і каля нашых шумлівых-гаманлівых пушчаў не менш цікавага, чымся дзе-небудзь каля далёкага сіняга мора або і за сінім морам нават». Такім чынам, гэтая звышзадача зводзіцца да свядомага абуджэння і выхавання патрыятычных пачуццяў. І яна ні ў якой меры не супярэчыць адкрыта павучальнай накіраванасці абодвух празаічных твораў Дубоўкі, іх практычна-прыкладной нацэленасці.

У канчатковым выніку і «Жоўтая акацыя» і «Ганна Алелька», кнігі па сваім агульным характары вельмі блізкія, унутрана сугучныя, родасныя, атрымаліся даволі змястоўнымі і цікавымі.

Асобнай гаворкі і грунтоўнага прафесійнага даследавання заслугоўвае перакладчыцкая праца Дубоўкі, якою паэт з поспехам займаецца на працягу ўсяго свайго творчага жыцця. Першыя Дубоўкавы пераклады з Байрана паявіліся ў друку яшчэ ў 1922 годзе. Потым, таксама ў дваццатыя гады, публікаваліся пераклады з Пушкіна і Брусава, Ясеніна і Тычыны, Ю. Янsocіса і Е. Чарэнца, з грузінскіх і азербайджанскіх паэтаў. Але асабліва актыўна выступае Дубоўка як перакладчык у апошняе дзесяцігоддзе. Цяпер ён перакладае творы старажытнага кітайскага паэта Ду Фу і сірыйскага пісьменніка і вучонага XIII стагоддзя Абуль Фараджа, Д. Байрана і В. Шэкспіра, І. Гётэ і Ул. Сыракомлі, Ю. Славацкага і Ул. Бранеўскага, Ул. Сасюры, М. Рыльскага і А. Андрэева.

Адным словам, ва ўсіх аблюбаваных жанрах працуе паэт з вялікай аддачай і на поўную сілу.

Мяркуючы па ўсім, творчай энергіі ў Дубоўкі яшчэ багата (бо пра стому ў вершы з цыкла «Дактылічныя рытмы» паэт піша: «З гэтай я дамай зусім не знаёмы»). І ў гэтых адносінах яму могуць пазайздросціць значна маладзейшыя па ўзросце пісьменнікі.

Пажадаем жа Уладзіміру Мікалаевічу і на далейшае добрага здароўя, творчага настрою, плёну і спору ў яго натхнёнай працы на карысць нашай бацькаўшчыны.

# Паэтычная паверка

Алесь РАЗАНАЎ



## ПУНКЦІРЫ

●

Здасца,
што ўсё ўжо было.
Позірк, пяшчотны і чулы,
сонца ў лісці,
і крыло,
што ўвышыні мільганула.

●

Мяне шпаркія коні насілі
праз завесы аблок і дажджу...
З васільковых палёў
знясілены
У высокае неба гляджу.

●

Маімі, тваімі снамі,
светам, што нікне ў журбе,
лета сябе ўспамінае,
успамінае
сябе.

●

Як ні жыві,
сваю тугу
той, хто жыве, не забратае.
Я ўсё бяру і ўсё вяртаю.
А ўсё ў даўгу,
ў даўгу,
ў даўгу.

●

Ні лісціка,
ні ўздыху.
Находзіць змрок здаля.
І здасца парадзіхай
прыціхлая зямля.

●

Прадчуванне страты
Турбуе сны...
Высока над хатай
Кружаць буслы.

●

Я сплю ў альтанцы векавечнай
пушчы,
і прачынаюся,
і бачу — ў чым жа соль!..—
дзівосныя сусветы —
невідушчы,
відушчы — перакошаную столь.

●

Вясна.
Вясною.
Аб вясне.
Хай абнадзеіць,
хай загубіць,
сляпою сілай захлісне,
адчайнай ласкай загалубіць!

●

Сцежка заблудзіцца ў верасе,
кладка патоне ў трысці.
Пойдзем —
і болей не вернемся,
пойдзем...—
Ды трэба ісці.

●

Піць малако...
Не ведаць млосці,
не вандраваць па гарадах,
быць маладым у маладосці
і памяркоўным у гадах.
Піць малако.

●

І зноў,
да галавакружэння,
цвіце
у дворыку язмін.
Але няма таго браджэння,
мальбы, гарачкі і ўзвышэння
і недаступнага: вазьмі!

●

Іх шліфавалі доўгія вякі —
іх засыпалі душныя пяскі,
іх бураны разносілі ўбакі,
гайдалі хвалі
без канца і краю.
...Хаджу па сонным беразе ракі,
вільготныя каменьчыкі збіраю.

●

Вясёлы дзень—вясновы дзень.
У промнях песціцца надзея.
І ўсё на свеце ў гэты дзень —
усё на свеце!—
маладзее.

●

Пішу лісты.
З нуды, з адчаю...
Не ёй — сабе.
Яны пры мне.
Па шмат разоў я іх чытаю,
мне бачны сэнс іх.
Ёй бы —
не!..

●

Святло
узлеску залатога
і неба, цяжкае, што ртуць...
Яшчэ не зроблена нічога,
а стома — рук не павярнуць.

●

Як астраўкі
у шызых вёснах —
ракетадром,
аэрадром.
А мы за ісцінай на вёслах,
бы арганаўты за руном.

●

Перакладаю шэпт дажджу,
пагляд вачэй,
трымценне гаю.
Кранаю,
слухаю,
гляджу,
я не пішу — перакладаю.

●

Ды
ёсць яшчэ прастор далёкі
і сцежка — доўгая бы ўздых...
Ты сам з сабой не адзінокі,
а — між людзей:
куды ж ад іх?!

●

Ах, восень, восень —
наяву
прыйшла звінець і ганарыцца.
Сланечнік згубіць галаву,
празрыста ясень загарыцца.

●

Зніклі ў далечах сны
аб гадах маладых,
парыванні,
дарогі,
каханыя вочы.
Лістападаўскі вецер бушуе аб іх,
красавіцкае сонца зіхоча.

●

З якога мы такога цеста,
з якога
спалучэння глін?
Дзе змест вякоў?!—
Нямашка зместу,
ёсць змест імгненняў і хвілін.

●

Прайшло,
патала...
І ў траве
прамень бязбоязна ірграе.
Але мінулае жыве,
яно за намі назірае.

●

Праб'ецца даўні запавет —
і стане цяжка,
стане дрэнна..
Але — ужо —
не марны свет,
і пот, і слёзы не дарэмны.

●

Развей няведання туман
і адкажы нам,
непазбежнае,
ці гэта час належыць нам,
ці гэта мы яму
належныя...

●

Вятры паспелае сажнуць...
Празрысты смутак
над клянамі,
і боль,
што нас пераўжывуць
яны, пасаджаныя намі.

●

Я іх прыдумаў:
абавязкі!..
Я іх стварыў, я гаспадар.
Мне надакучылі іх ласка,
іх непрадбачаны цяжар...
...Не адпускаюць абавязкі.

●

Вяртаемся не да калыскі.
Той боль не выкрычыш —
крычы! —
калі ўмірае самы блізкі,
а ты
бяссільны памагчы.

●

Стварыць з кавалкаў слоў і фраз
дзівосны свет,
душой сагрэты.
На ўсе пытанні мець адказ,
а не сказаць,
нашто ўсё гэта.

●

З дзівоснай вечнасцю ў хаўрусе
да супярэчнасцей прывыкну.
Застацца каб!— не застануся.
Бясследна знікнуць бы! —
не знікну.



Мал. В. Тарасава.

# ПРАЦЯГ РАЗМОВЫ

Выхад у свет даследчай, праблемнай манаграфіі па беларускай літаратуры апошнім часам нікога ўжо не здзіўляе. Гэта, вядома, паказчык росту агульнага стану нашага літаратуразнаўства. Але гэта ж абавязвае нас быць больш патрабавальнымі да кніг, якія носяць гісторыка-тэарэтычны характар. Наколькі ж ставяцца ў іх праблемы надзённыя, наколькі асвятляюцца яны глыбока і ярка? Ці не з’яўляюцца яны ўяўна-праблемнымі? Кніга Міхася Лазарука «Беларуская паэма ў другой палавіне XIX—пачатку XX стагоддзя»[1], якую мы нядаўна ўбачылі на кніжных паліцах, не можа не прыцягнуць увагі арыгінальнасцю падыходу да літаратурных з’яў, грунтоўнасцю ў распрацоўцы ўзнятых пытанняў.

У цэнтры даследавання адна з важнейшых, да гэтага часу маларaспрацаваных праблем літаратуразнаўства—праблема жанру. Аўтар разумее, што праз жанр можна «ўбачыць» усю літаратуру, што вывучэнне таго ці іншага з жанраў дазваляе глыбей уявіць літаратурны працэс у цэлым. «Вывучэнне шляхоў развіцця паэмы, — справядліва адзначае ён, — можа дапамагчы ўразуменню агульнага эстэтычна-стылявога руху беларускай літаратуры, яе жанравага станаўлення на даным этапе». Падыход да жанру беларускай паэмы, калі яна вывучаецца не толькі на фоне, але і ў працэсе развіцця літаратуры, вельмі перспектыўны.

Уласна, размову аб жанравай адметнасці беларускай паэмы, яе гістарычным лёсе М. Лазарук пачаў раней, у кнізе «Станаўленне беларускай паэмы» (1968) — кнізе цікавай, грунтоўнай, дзе яскрава выявіўся яго даследчыцкі «почырк»—скрупулёзны, карпатлівы аналіз фактаў, мастацкіх крыніц, імкненне звязаць рух нацыянальнай літаратуры, у прыватнасці паэмы, з рухам мастацкай думкі суседніх народаў. Тут і жаданне не згаджацца з іншымі, палемічны задор, жаданне знайсці свой ключ, з дапамогай якога можна было б пранікнуць у «сакрэты» творчых задум. У новай кнізе «почырк» М. Лазарука застаўся тым жа, але праявіўся ён акрэсленей, больш выразна. Адна з прычын таго—непараўнальна багацейшы, каларытнейшы, шматграннейшы матэрыял, фактычна-гістарычны і «чыста» мастацкі, які далі беларускай паэме другая палавіна XIX і асабліва пачатку XX стагоддзяў, у параўнанні з пачатковым этапам зараджэння і станаўлення нашай нацыянальнай літаратуры.

І ў другой палавіне XIX ст., праўда, жанр паэмы ў беларускай літаратуры не дасягнуў таго ўзроўню, калі б у ім па-сапраўднаму вырашаліся самыя вострыя, самыя важныя праблемы грамадскага жыцця, нацыянальна-вызваленчага руху, росту самасвядомасці народа. Ды і твораў чыстага «паэмнага» жанру наўрад ці асмелімся мы назваць. Натуральна, даследчык асабліва вялікую ўвагу скіроўвае ў першых раздзелах кнігі на разгляд літаратуры ў цэлым, з яе праблемамі творчага метаду, стылявых плыней, традыцый і наватарства і, зразумела, жанравай спецыфікі. Меркаванні і вывады яго, як правіла, выклікаюць цікавасць сваёй навізной, аргументаванасцю, хоць катэгарычнасць сцвярджэнняў іншы раз можа і насцярожыць.

«Багушэвіч... не толькі не быў рамантыкам, але і процістаяў гэтай плыні»,—піша ён. А як жа быць з праграмнымі вершамі зборнікаў «Дудка беларуская» і «Смык беларускі», з вершамі «Ахвяра», «Мая хата» і некаторымі іншымі? Няўжо ў іх не «прасвечваюцца» рамантычныя мэтаімкненні паэта? Такія перабольшанні ўзніклі, напэўна, ад імкнення вызначыць асноўнае ў творчым метадзе Багушэвіча, раскрыць характар яго рэалізму. Каб адсюль ужо весці гаворку пра найбольш важнае ў задуме працы—пра паэму «Кепска будзе», як пра твор, які «рассоўваў» жанравыя рамкі нашай літаратуры мінулага стагоддзя і шмат у чым быў наватарскім.

Упершыню ў нас, здаецца, з такой шырынёй разглядаецца творчасць Янкі Лучыны, галоўным чынам, паэма «Паляўнічыя замалёўкі». Гэта зусім невыпадкова. Бо аўтар добра адчуў адметнасць мастацка-стылявой манеры Лучыны ад Багушэвіча. Паэзія Лучыны развівала тэндэнцыю перспектыўную, яна несла беларускай літаратуры лірызм, пластыку малюнка, жывапіс словам. І нельга не пагадзіцца з даследчыкам, што творчасць Лучыны мела важнае значэнне для далейшага развіцця нашай паэзіі. Але... Нашто ж супроцьстаўленні? Маўляў, «Багушэвіч не перарос свайго часу»; а ў Лучыне ўжо, бачыце, угадваецца Колас. Ці не адвольнасць тут, калі ўлічыць, што вывад робіцца на аснове паэмы «Паляўнічыя замалёўкі», вядомай на польскай мове? Беларускія ж творы Лучыны падстаў для такіх вывадаў, думаецца, не даюць. Нельга, пэўна, на аснове таго, што паэт пераклаў на беларускую мову адзін раздзел паэмы—«Стары ляснік» (ці ўся яна была перакладзена—меркаваць цяжка) сцвярджаць безапеляцыйна, быццам бы «Паляўнічыя замалёўкі» — рэалістычная паэма, якая падагульніла развіццё гэтага жанру ў беларускай літаратуры XIX ст.».

Аднак не будзем і мы надта катэгарычнымі. Аўтар, выкладваючы свой погляд, імкнецца аргументаваць яго, быць доказным. А шырокая эрудыцыя даследчыка, тэарэтычная падрыхтаванасць, уменне пранікнуць у сакрэты паэтычнага майстэрства, арыгінальнасць у падыходзе да літаратурных з’яў падкупляюць, прымушаюць сур’ёзна лічыцца з кожнай яго думкай, назіраннем, згаджацца пасля роздуму з тым, што адразу здавалася спрэчным.

У кнізе М. Лазарука, натуральна, асноўнае месца адводзіцца аналізу беларускай паэмы XX ст. Сам матэрыял даваў шырокую магчымасць для назіранняў і вывадаў. І гэтыя магчымасці даследчыкам добра выкарыстаны. Застаючыся на грунце гістарызму, аўтар прасочвае лёс «паэмнага» жанру, пераканаўча даводзячы, што ў лёсе паэмы «бачыцца» лёс усёй беларускай дэмакратычнай літаратуры, цесна звязанай карэннямі з сацыяльнымі і нацыянальнымі праблемамі. Ён слушна сцвярджае, што паэма «становіцца жанрам, у якім глыбока раскрываецца характар рэвалюцыйнай эпохі з яе гераізмам, суровым драматызмам і глыбокімі жыццёвымі супярэчнасцямі».

Не могуць не выклікаць зацікаўленасці і тыя мясціны кнігі, дзе канкрэтна пры разглядзе паэм паказваецца, як адбывалася ўсталяванне рэалізму ў нашай літаратуры, наколькі плённымі былі ў ёй рамантычныя тэндэнцыі і г. д. Імкненне абмінаць пратаптаныя сцежкі, на кожны твор мець свой уласны погляд прывяло да таго, што аўтар у канкрэтным аналізе твораў выказаў нямала арыгінальных думак. З яго ацэнкамі ці логікай разважанняў можна ўрэшце рэшт спрачацца, але не прыслухацца да іх было б несправядліва (значэнне іроніі ў драматычных паэмах Купалы, вызначэнне жанру «Новай зямлі» як паэмы-эпапеі, якая ўзнікла на даволі нізкім этапе мастацкага развіцця беларускай думкі). Прыслухацца варта— у непасрэдным разглядзе паэм шмат тонкіх назіранняў, супастаўленняў, якія «працуюць» на карысць выказаных даследчыкам меркаванняў. Але асобныя з аўтарскіх сцвярджэнняў успрымаюцца як пэўная зададзенасць, народжаная жаданнем ва ўсім абавязкова быць арыгінальным, непадобным на іншых.

Асабліва характэрныя ў гэтай сувязі разважанні даследчыка пра драму Янкі Купалы «Раскіданае гняздо». Цікавыя ўжо хоць бы таму, што М. Лазарук не лічыць гэты твор драмай, не пагаджаючыся з аўтарскім вызначэннем жанру. Літаратурная і сцэнічная гісторыя купалаўскай п’есы ведае шмат вызначэнняў яе жанравай спецыфікі. Усяго было—рэалістычная, сімвалічная, псіхалагічная, сацыяльная драма, і нават—аптымістычная трагедыя. На гэты раз мы сустракаемся з іншым вызначэннем—драматычная паэма (праўда, аўтар часта робіць агаворкі, каб пазбегнуць непазбежнага ў такіх выпадках папроку). Даследчык, безумоўна, мае рацыю, калі прыкмячае і паказвае, у чым «Раскіданае гняздо» непадобна на сацыяльна-псіхалагічную драму мінулага стагоддзя. Але ж ім мала ўлічваюцца даволі важкія акалічнасці. Па-першае, эвалюцыя жанру драмы, тыя яе асаблівасці, з якімі яна прыйшла ў наш век (нельга забываць павучальнага вопыту Г. Ібсена, А. Чэхава, М. Горкага, ды і М. Метэрлінка, калі хочаце). Па-другое, творчая эвалюцыя Купалы, які ў тым жа 1913 годзе, калі пісалася «Раскіданае гняздо», выдаў свой самы рэалістычны і самы рамантычны зборнік «Шляхам жыцця». Не, не жанр драматычнай паэмы выклікаў узнёсласць, паэтычнасць маляўнічых сродкаў твора. Яны сталі вынікам шырокага і моцнага ўварвання ў рэалістычнае рэчышча імклівай рамантычнай плыні, дзе асабліва ўпэўнена «выпростваўся» купалаўскі талент. А драма—засталася драмай, выключна самабытнай, арыгінальнай, непаўторнай паводле і вобразных увасабленняў, і сюжэтна-кампазіцыйнай структуры.

М. Лазаруку, на мой погляд, не ўдалося «зламаць» традыцыю. Гэта, аднак, не значыць, што яго канкрэтныя меркаванні, у прыватнасці наконт характару псіхалагізму купалаўскай п’есы, яе патэтычнасці, неправамерныя. Наадварот, яны сведчаць, што даследчык здолеў сказаць сваё слова ў вызначэнні мастацкай своеасаблівасці «Раскіданага гнязда».

Грунтоўна і дэталёва вядзецца ў кнізе разгляд купалаўскіх рамантычных паэм, коласаўскіх «Новай зямлі» і «Сымона-музыкі». Даследчык паказвае, наколькі ўзмужнела наша літаратура ў апошнія перадкастрычніцкія гады. І зусім лагічна ён перакідвае «мосцік» у савецкі час, калі жанр паэмы набыў новыя, адметныя рысы. М. Лазаруку, пэўна, варта працягваць даследаванне. Яго манаграфіі даюць усе падставы спадзявацца, што мы яшчэ сустрэнемся з добрымі кнігамі пра беларускую паэму.

**М. ЯРОШ.**

[1] М. Лазарук. «Беларуская паэма ў другой палавіне XIX—пачатку XX стагоддзя». Выдавецтва БДУ імя У. І. Леніна. Мінск, 1970.

# ПАЧАТАК ЗРОБЛЕНЫ...

Восем гадоў назад Ул. Калеснік выдаў кнігу «Час і песні», даследаванне літаратуры былой Заходняй Беларусі. Быў там вельмі цікавы раздзел пра масава-самадзейную літаратуру, якую ствараюць часта безыменныя аўтары. Аўтар слушна пісаў: «Яна нагадвае асколак грамадскай свядомасці ў момант яе станаўлення. Яна гарачая, надзённая, у ёй натуральна спалучаюцца палітычныя страсці, маральна-этычныя імкненні і эстэтычныя пачуцці таго асяроддзя, у якім яна бытуе». Нешта такое ж уласцівае і самадзейнаму тэатральнаму руху наогул і аматарскаму тэатру былой Заходняй Беларусі ў прыватнасці. Доўгі час гэтым прадметам спецыяльна ніхто не займаўся (тэатразнаўцы і тыя пакідалі аматарскі тэатр на былых «крэсах усходніх» як «тэра інкогніта»). Цяпер выдадзена праца А. Лабовіча «Тэатр змагання»[1], якой зроблены пачатак навуковага даследавання яркага і ваяўнічага руху аматарскага сцэнічнага мастацтва ў былой Заходняй Беларусі.

Вядома, што тэатр—цалкам залежыць ад драматычнай літаратуры, што ён «толькі» ўвасабляе ідэі і вобразы пісьменніка. Але ад выбару п’ес і ад іх трактоўкі залежыць рэпертуарная палітыка дзеячоў сцэны і комплекс уражанняў гледача, комплекс, які мае моцны ідэйна-эстэтычны зарад. Сцэна ўплывае на фарміраванне светапогляду чалавека і грамадства, аб’ядноўвае ў адзіным настроі масавую аўдыторыю, дае спажыву для роздуму аб жыцці і сацыяльных пытаннях. Калі ж браць умовы былой Заходняй Беларусі, то тут тэатр быў яшчэ і кафедрай, з якой на роднай мове гаварылася працоўнаму беларусу пра самае надзённае ў яго жыцці, перадаваліся светлыя ідэалы нацыянальнага і сацыяльнага вызвалення. Зыходзячы з такой—вельмі слушнай і пацверджанай практыкай—пазіцыі, А. Лабовіч і гартае старонкі параўнальна нядаўняга гістарычнага мінулага нашага народа.

Аўтар выступае першаадкрывальнікам многіх з’яў і імёнаў, з якімі звязана станаўленне і развіццё самадзейнага тэатральнага руху на той частцы тэрыторыі Беларусі, дзе на працягу двух дзесяцігоддзяў панскай улады, як гэта было пры царызме, не дапускалі нават і спробы стварыць прафесіянальны нацыянальны тэатр чатырохмільённага беларускага насельніцтва. Ахоўнікі «цэласнасці і недатыкальнасці» санацыйнага ладу добра ведалі сілу мастацтва, яны, як цэрберы, пільнавалі і правяралі духоўнае жыццё прыгнечанага люду. І той шукаў поля дзейнасці ў наладжванні асветы, прапагандзе народнай творчасці праз харавое спяванне (Рыгор Шырма—якое яркае імя ў гэтых старонках летапісу!), праз выданні прагрэсіўных часопісаў і кніг, праз аматарскі тэатр.

У кнізе падрабязна разгледжана дзейнасць Беларускай драматычнай майстроўні ў Вільні. Чытач тут знойдзе і характарыстыкі яе найбольш актыўных арганізатараў і артыстаў, і ўдумлівыя ацэнкі рэпертуарных пошукаў. Аналіз таго, што зрабіў і чаго дасягнуў гэты цікавы і патворчы сталы калектыў, дае падставы аўтару сцвярджаць, што і сапраўды «Майстроўня павінна была стаць падмуркам для будучага прафесіянальнага тэатра». Тое, што рабілі ў гэтым напрамку драматург Л. Радзевіч, настаўнік беларускай гімназіі М. Красінскі, артысты А. Канчэўскі, А. Міхалевіч, М. Шавель і іншыя энтузіясты тэатральнай справы, паказана А. Лабовічам на падставе дакументаў і ўспамінаў былых удзельнікаў тых падзей. І даволі гучнае вызначэнне —«Творчая дзейнасць Беларускай драматычнай майстроўні была своеасаблівым барометрам палітычнага клімату Польшчы сярэдзіны 20-х гадоў» — успрымаеш як добра абгрунтаваную выснову даследчыка.

Агляд самадзейнага тэатральнага жыцця даецца ў кніжцы грунтоўны—ад шырока вядомых, амаль што прафесіянальных па свайму ўзроўню калектываў аўтар пераходзіць да кароткіх, але выразных характарыстык драматычных гурткоў, якія дзейнічалі ў Слонімскім, Навагрудскім, Стаўбцоўскім, Ашмянскім паветах колішніх «крэсаў усходніх». Праўда, часам А. Лабовіч называе толькі факты і дае да іх празмерна сціплы каментарый, а чытач чакае і аднаўлення падзей—паказу, які магчымы на кніжных старонках, самога спектакля ў мізансцэнах і ў непаўторна індывідуальных трактоўках роляў у вядомых п’есах, хоць бы Я. Купалы. А вось А. Лабовіч аддае перавагу агульным фармуліроўкам.

Гэты «прыём» даследавання—калі аўтар дазваляе сабе падрабязны паказ толькі там, дзе можа спаслацца на адпаведныя дакументы або расказы сведкаў і ўдзельнікаў,—вытрыманы А. Лабовічам на працягу ўсёй працы. Трэба падзякаваць яму за тое, што ён уводзіць у навуковы ўжытак раней нідзе не друкаваныя, сабраныя ім самім успаміны Янкі Брыля (яны надзвычай цікавыя), настаўнікаў, дзеячоў камсамола і КПЗБ, што бралі ўдзел у аматарскіх гуртках. Тут чытач адкрывае для сябе многа новага. Але вельмі ж прывабная задача даследчыка тэатра наогул—на падставе нават самых сціплых дадзеных паспрабаваць намаляваць «адноўлены» ім, даследчыкам, спектакль, яго герояў, атмасферу. Ну, калі не так, як гэта зрабіў В. Бялінскі ў артыкуле пра П. Мачалава ў «Гамлеце», то хоць бы так, як пішуць пра мінулае аўтары кніг з серыі ЖЗЛ «Молодой гвардии»! Мабыць, і такая работа аўтара — наперадзе.

Добра, што А. Лабовіч даследуе тэатральны рух не як нешта ізаляванае ад штодзённага жыцця народа і палітычнай барацьбы, а ў арганічнай сувязі самадзейнага мастацтва з тагачаснай рэчаіснасцю. Ужо адно тое, што гурток часам бываў яшчэ і канспіратыўнай яўкай КПЗБ, пашырае далягляды даследавання і падштурхоўвае творчую фантазію чытача. Мы і самі «дамалёўваем» тое, аб чым, паўтараю, часта гаворыцца на старонках «Тэатра змагання», можа, і сапраўды залішне стрымана. Але такім звычайна і бывае першы крок даследчыка раней нязведанага. Яго А. Лабовіч зрабіў упэўнена і, трэба спадзявацца, праклаў сцежку для далейшага паглыблення ў вельмі цікавую гістарычную праблему на пэўным этапе жыцця народа.

**В. ІВІН.**

[1] А. Лабовіч. «Тэатр змагання». Выдавецтва «Навука і тэхніка», Мінск, 1969.



# СВАЁ, СВЕТЛАЕ...

*Яўгену Харытоненку—50*

КОЖНАЯ больш-менш значная выстаўка новых твораў выяўленчага мастацтва прыносіць знаёмства з сотнямі твораў жывапісу—добрых і розных. Сярод іх не губляецца створанае жывапісцам Яўгенам Міхайлавічам Харытоненкам. Яго тэматычныя палотны і партрэты запамінаюцца. Але не толькі таму, што досыць часта з'яўляюцца ў экспазіцыях. У іх ёсць нешта сапраўды ўладарнае, што прымушае праз доўгі час пасля знаёмства прыгадваць асобныя вобразы, дэталі, сюжэтныя сітуацыі, настроі. Справа не ў адной толькі тэматыцы, блізкай і зразумелай шырокаму гледачу. Ёсць у Яўгена Харытоненкі свая адметная манера пісьма, арганічна спалучаная з тым светлым роздумам, які пераважае ў яго творчасці.

У мастака здараюцца часам творчыя няўдачы. Але ніколі не пакідаюць яго тыя творы гледача раўнадушным. У кожную работу ўкладзена шмат сіл, кожная сведчыць пра пільныя назіранні ў жыцці.

Яшчэ ў 1953 годзе, калі Яўген Харытоненка быў дыпламантам Кіеўскага мастацкага інстытута, ён напісаў карціну «Электразваршчыца». Яму ўдалося перадаць у характары гераіні палатна ўпартасць, мужнасць, мэтанакіраванасць. Неназойліва чыталася пачуццё ўласнай годнасці чалавека працы ў засяроджаным паглядзе гераіні. І — ніякіх элементаў параднасці, якія ў тыя часы досыць-такі часта давалі сябе адчуць у такога роду сюжэтах.

Апошняя якасць і надалей прываблівала ў творах Яўгена Харытоненкі — прыўзнятасць, пазбаўленая штучнага прыўзнімання. Натуральнасць гаворкі жывапісца пра чалавека працы або пра нашага юнага сучасніка.

Адразу ж пасля сканчэння інстытута Яўген Харытоненка прыехаў у Беларусь. І тут ён не замкнуўся ў сценах майстэрні. Яго вабілі дарогі. Жыццё рэспублікі падказвала столькі цікавых маршрутаў, каб акунуцца ў атмасферу сапраўднай творчасці!..

Наваполацк... Беларускі Нафтабуд... Колькі цікавых, змястоўных знаёмстваў адбылося! Шматлікія назіранні над новым у жыцці рэспублікі далі магчымасць мастаку пераканаўча расказаць пра ўнутраны свет творцаў гэтага новага. З'явілася цэлая галерэя партрэтаў герояў славутай на ўсю краіну новабудоўлі.

У 1959 годзе Яўген Харытоненка прыняў удзел у групавой выстаўцы «На будоўлях сямігодкі». Ён паказаў не ўсё, што было створана ў часе паездак. Адбор быў строгі. Але кожны з паказаных твораў сведчыў, што мастак умее ўбачыць у жыцці тыповае, што ён умее самастойна асэнсоўваць праявы нашага жыцця, па-свойму расказваць пра іх. Разнастайныя па кампазіцыі і разнастайныя па змесце былі партрэты В. Лукомскага — чалавека неўтаймоўнай энергіі, брыгадзіра В. Арэхвы — былога марака, чалавека з багатым жыццёвым вопытам, маляра В. Стральцова—характар просты, лірычны, змястоўны...

Мабыць, немалую ролю мае набыты мастаком вопыт у стварэнні партрэта, для яго далейшай творчасці над складанымі кампазіцыямі. Гэта відаць, напрыклад, у трыпціху Яўгена Харытоненкі «Неспакойныя сэрцы» (1965—1967), або ў адной з яго апошніх работ — «Сталявары», паказанай на юбілейнай мастацкай выстаўцы «50 год БССР і КПБ». На мой погляд, асабліва цікавая другая з названых работ. Яна прысвечана сталяварам Мінскага трактарнага. Рабоце над палатном спадарожнічала стварэнне серыі партрэтаў членаў брыгады камуністычнай працы сталеліцейнага цэха завода. У карціне старанна прадуманы характары, дэталі, каларыт. Рашуча адмяталася ўсё другараднае. Мастак імкнуўся не страціць той непасрэднасці, свежасці ўражання, якая спадарожнічае рабоце з натуры. Праўда, імкненне гэтае ўдалося здзейсніць не цалкам, але ўсё ж асноўнае—засяроджанасць рабочага калектыву, яго згуртаванасць — у карціне перададзены. Мажорны жывапіс, характэрны для палітры Яўгена Харытоненкі, адыграў тут не апошнюю ролю.

Асабліва хачу падкрэсліць, што з усіх жывапісцаў рэспублікі, якія аддаюць натхненне стварэнню вобразаў нашых юных сучаснікаў, нашых дзяцей, Яўген Харытоненка, бадай, найбольш актыўны. І тут у яго ўдачы вельмі прыкметныя. У свеце дзіцячых характараў мастак адчувае сябе ўпэўнена. Ён іх ведае да драбніц, гэтых хлопчыкаў і дзяўчынак, якія на яго палотнах такія розныя, такія непаўторна індывідуальныя, такія сімпатычныя сваёй цікаўнасцю, складанасцю свайго ўнутранага свету!.. Сапраўдная сардэчнасць і высакародная стрыманасць гаворкі мастака пра юных грамадзян нашай дзяржавы выклікаюць у сэрцы добрае пачуццё. Трэба вельмі глыбока любіць дзяцей, ведаць іх зменлівыя настроі, каб умець расказаць пра іх так, як расказвае Яўген Харытоненка ў творах «Леначка» (1960), «У нас на двары», (1963), «Віця» (1963), «Хлопчык з кнігай», (1959) і многіх іншых.

Каля «Леначкі» я ні разу не бачыў раўнадушных. А колькі цікавых размоў гледачоў узнікала, калі экспанавалася карціна «У нас на двары»! Якія яны розныя, юныя героі гэтага палатна, што сабраліся на лавачцы пагутарыць аб сваіх, такіх важных, дзіцячых справах! А які гарманічны, светлы, поўны сапраўды меладычнага гучання жывапіс! Зеленавата-ружовыя, фіялетавыя тоны ствараюць адмысловы лад палатна.

Увагу гледачоў і прэсы прыцягнулі спробы жывапісца сказаць сваё слова ў Ленініяне нашага выяўленчага мастацтва. Прыгадаем тут два варыянты карціны «Хай заўжды свеціць сонца» (1965 і 1967), дзе Ільіч паказаны ў гутарцы з дзецьмі. Праўда, мы не можам сказаць, што і ў другім, лепшым, варыянце карціны складаная задача вырашана да канца, але ёсць пэўныя знаходкі ў мастака як у трактоўцы вобраза Ільіча, так і ў спробе асэнсаваць тыя ўнутраныя сувязі паміж Ільічом і дзецьмі, дзеля якіх пісалася палатно.

Яўген Харытоненка працуе многа. Бадай, не бывае такой выстаўкі, на якой не паказаў бы ён новыя творы. У яго шмат новых задум.

Можа быць, гэтая гаворка пра мастака не будзе поўнай, калі не адзначыць яго ўмельства ствараць у кампазіцыях і партрэтах атмасферу асяроддзя, пейзаж або інтэр'ер, якія заўсёды тонка аркестраваны ў жывапісных адносінах.

Яўген Харытоненка сустракае сваё пяцідзесяцігоддзе ў добрай творчай форме. Гэтую добрую творчую форму вызначаюць перш за ўсё ўмельства гаварыць з гледачом шчыра, умельства стала тлумачыць жыццёвыя праявы, багацце жыццёвых назіранняў.

**Р. БАДЗІН.**



«Песенька нянек» з праграмы «Пытанне аб выхаванні» (злева направа — С. Фрэнкель, В. Іваноўская, Т. Сасноўская, В. Гераскіна, Р. Ігнатовіч, Л. Дудкіна і Г. Луцэвіч).



«Справы футбольныя» (В. Самойліч і В. Гудзіновіч).

# ЦАГЛІНКА ДА ЦАГЛІНКІ

Афіцыяльна іх называюць агітбрыгадай Дома культуры ордэна Леніна будтрэста № 5. Але гэта толькі афіцыяльна. У жыцці і на сцэне іх клічуць ласкава — «цагліначкі». Яны — гэта семнаццаць маладых, прыгожых, вясёлых і працавітых хлопцаў і дзяўчат, якія не ўяўляюць сабе жыцця без мастацтва. Гледачы з задавальненнем ідуць да іх у госці, бо вельмі ўжо самабытна і непасрэдна выконваюць яны свае калейдаскапічныя імклівыя скетчы. Чым жа прывабліваюць да сябе юныя артысты, як за нязначны час (а выступалі яны ўсяго семдзесят разоў) змаглі яны наладзіць цесны кантакт з гледачом, у чым сакрэт іх папулярнасці?.. І ці не вельмі рана прыйшлі да іх прызы і дыпломы, заваёваныя на гарадскім аглядзе мастацкай самадзейнасці?

Адразу, відаць, і не адкажаш. Але, калі гаварыць шчыра, то плён, якога дасягнулі самадзейныя артысты, прынесла ім самаадданая, штодзённая праца, вялікая адказнасць кожнага перад калектывам. Відаць, не выпадкова сябры з іншых гурткоў самадзейнасці жартуюць: «Яны працуюць да сто сорак восьмага дубля». Як вытрымліваюць, калі паспяваюць? І вытрымліваюць, і паспяваюць. Мне давялося пачуць адну размову. Гаварылі двое ўдзельнікаў самадзейнасці:

— Хто займаецца сёння ў пакоі духавога аркестра?

— «Цаглінка».

— А ў танцавальным хто?

— «Цаглінка».

— А хто зачыніўся ў кабінеце намесніка дырэктара?

— «Цаглінка».

— Што ў вас тры «Цаглінкі»? — пытаю я.

— Адна. Дзелімся на групы і адначасова працуем у розных пакоях. Агітбрыгада ж не драматычны тэатр, дзе можна дзесяць гадоў іграць адзін спектакль.

— У «Цаглінкі» дэвіз вядомы: «Удзень у газеце, а ўвечары ў куплеце».

Але ж і ўзнагароду маюць добрую: што ні рэпліка — то рогат у зале, што ні канцэрт — вялікае дзякуй ад гледачоў і запрашэнне: «Прыязджайце яшчэ».

Запомніў я такі эпізод. Прыехала «Цаглінка» з канцэртам у Міністэрства будаўніцтва прамысловых прадпрыемстваў і будаўнічых матэрыялаў. Як прымуць — людзі тут адукаваныя, добра дасведчаныя і ў мастацтве. Пакуль спявалі і расказвалі пра футбольныя справы, усё ішло на звычайным узроўні — смех, як смех. А як дайшлі да надзённых спраў будаўнікоў, зала насцярожылася. З кожнай новай мініяцюрай, скетчам, рэпрызай у зале ўсё часцей і часцей гучаў шчыры смех гледачоў. А потым і рэплікі пачуліся: «Правільна! Малайцы!»

Смяюцца людзі з уласных недахопаў і не скардзяцца, а дзякуюць артыстам. Чаму? Вядома чаму — да недахопаў, як і да ўсяго, можна прывыкнуць. Сёння сцярпеў, заўтра махнуў рукою, а праз год зусім звыкся — быццам так і трэба. А тут нагадалі — ды так, што і не ўседзець.

Выйшаў я пасля канцэрта ў калідор, гляджу — стаяць ля акна два супрацоўнікі міністэрства, кураць, абмяркоўваюць канцэрт... Усміхаюцца ніякавата, каб апраўдацца, на нейкія лічбы спасылаюцца, факты прыводзяць... Потым пачалася ў іх дзелавая размова. Падзейнічала! Заварушылася думка ў патрэбным напрамку!

Ну, а калі «Цаглінка» прыязджае на будаўнічую пляцоўку або ў інтэрнат будаўнікоў, то ляцяць ужо пух і пер'е...

Адзін з першых аматараў і энтузіястаў «Цаглінкі» — Саша Хмяльніцкі. Прыйшоў хлопцу тэрмін ісці служыць у Савецкую Армію. Праводзілі сябра як належыць — з песнямі, з тостамі. Паехаў хлопец, але кавалачак сэрца застаўся ў «Цаглінцы». Праз некаторы час атрымліваюць «цагліначкі» пасылку. Распакавалі — чырвоныя армейскія зорачкі... Ведаў Саша, што яны трэба для новай праграмы і прыслаў. Для гледача, які не ведае гісторыю гэтых зорак, яны — звычайны рэквізіт, а для «цаглінačак» гэта сімвал сяброўства. І яны ганарацца ім не менш, чым сцэнічнымі поспехамі.

Ваня Якжык працаваў у «Цаглінцы» пакуль вучыўся ў тэхнікуме. Скончыў тэхнікум, атрымаў прызначэнне на работу далёка ад Мінска. Але нядаўна хлопца зноў адправілі працаваць у Мінск, і першым чынам ён паведаміў аб гэтым сябрам з «Цаглінкі»... Каментарыі, як кажуць, не патрэбны!

Летняя пара — пара гастрольных падарожжаў, выступленняў ў парках, на будаўнічых пляцоўках, у піянерскіх лагерах. І «цагліначкі» амаль не штодзень у раз'ездах, і кожнае іх выступленне — нібы новая цаглінка ў будынак самадзейнага, але такога прафесіянальнага па ўзроўні мастацтва.

**Георгій СТЭФАНСКІ.**



## ДА НАШЫХ ЧЫТАЧОЎ

**Штотыднёвік «ЛІТАРАТУРА і МАСТАЦТВА» паступае ў розничны продаж у абмежаванай колькасці. Таму раім быць яго сталымі падпісчыкамі.**

**Падпісацца можна на тэрмін з пачатку кожнага месяца да канца года.**

Падпіска прымаецца ва ўсіх аддзяленнях сувязі і грамадскімі распаўсюджвальнікамі друку.

Прэзідыум Беларускага тэатральнага таварыства выказвае спачуванне народнаму артысту СССР Уладамірскаму Уладзіміру Іосіфавічу ў сувязі з напаткаўшым яго горам — смерцю жонкі.

Калектыў Беларускага Дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы выказвае глыбокае спачуванне сям'і Уладамірскіх з прычыны напаткаўшага іх гора — смерці жонкі і маці ЗАМЕШЫНАЙ Кацярыны Васільеўны.

звеннявы. А хвалі як стаяць усё роўка. Невад зрабіўся падобны на вяроўку — так яго скруціла хвалямі. А хвалі так расхадзіліся—здаецца вышэй мяне глядзяць, за мяне глядзяць. Нашы чумы на беразе маленькія-маленькія, як сядзяць усё роўна над вадою. І нібы прысядаюць: уверх-уніз, уверх-уніз.

Але пры ўсялякім надвор'і матня майго невада, як страўнік сытага пясца, заўсёды поўная—яна аж раздзімаецца ад рыбы.

Вось так і жыву я. Так незаўважна і праходзяць мае месяцы. Здаецца, толькі нядаўна быў яра іры, студзень —месяц перакульвання года. Потым незаўважна прабег і пі нядалава, красавік—месяц, калі нават ноччу можна знайсці аленнюю пашу. Прабулькатаў, прабушаваў сава іры, чэрвень — месяц вялікай вады. Празвінеў усе вушы ненянг іры, ліпень—камарыны месяц. Адроў сваё хор іры, кастрычнік—месяц аленніх самцоў. А вось ужо ізноў упаў над чумам пэўдзя іры, снежань—месяц цемені і сумётаў...

Блізка ўжо і маё стойбішча. Вось гэтыя велізарныя пудзеры — гурбы снегу—таксама стойбішча. Але для тых, хто ўжо спаўна пералічыў усе свае месяцы, пасланыя яму вялікім Нумам, назаўсёды развітаўся са сваім чумам. Іх новыя чумы—цесныя, збітыя з дошак і пастаўленыя адразу на зямлю скрынкі,—замяло снегам. Не відно нават званочкаў, якія на папяровых прымацоўваюцца над скрынкаю і праз якія мёртвыя размаўляюць з намі, жывымі: падзьме вецер, зазвініць званочак—значыць, твой родзіч ці радуецца твайму поспеху, ці засмучаецца тваёю няўдачай. Цяпер зіма, і званочкі пад сумётамі маўчаць. Алс прыйдзе вясна і яны зноў загавораць. Параскажуць усё, што там у іх новага адбылося за зіму. А пачне сыходзіць снег, ён спачатку пакажа лісцвяжныя нарты з палазамі, падобнымі на бабровыя брушкі,—абернутыя на магіле, яны пакрыліся ўжо нават мохам (значыць, чалавек памёр даўно). Тут жа потым вызваляцца з-пад снегу і харэі, якімі некалі кіравалі сваімі запрэжкамі людзі, і чыгункі, з якіх яны елі, і ўслонікі, на якіх сядзелі, і бакары, у якіх хадзілі. Памірае чалавек, і ўсё, чым ён карыстаўся, аддаецца яму назаўсёды—маўляў, мы можам набыць новае, а табе там усё спатрэбіцца. А так, калі раптам табе ўдасца перахітрыць вялікага Нума, уставай і едзь куды вочы глядзяць—у тундру: усё, што табе трэба для гэтага, ёсць тут ля тваёй магілкі. Толькі пакліч сваіх верных сабак ці аленяў...

А вунь тая гурба — гэта магілка майго бацькі. Я, Тэседа, памятаю, як яго хавалі. Мы везлі бацьку на могілкі. Справа на нарты дзяды ўторкнулі сухую галінку, злева — зялёную: маўляў, ты, калі так ужо здарылася, ідзі сваёю дарогаю (яе табе сухая галінка пакажа), а мы пойдзем сваёю — вось гэтай, зялёнай. На могілках самы старэйшы ў стойбішчы чалавек дзед Вэнга ціхім, спакойным голасам, якім размаўляюць толькі з сябрамі, прасіў продкаў, якія раней абжывалі могілкі:

— Мы назаўсёды аддаем вам Найваседу. Прыміце яго такім, як ён ёсць. Глядзіце яго, не сварыцеся з ім, дружнымі будзьце заўсёды. Мы тут у стойбішчы ўсе яго любілі. Добры быў ён чалавек. Умеў папрацаваць, умеў павесяліцца. Яго чум заўсёды быў дагледжаны, жонка — заўсёды радасная. Дзяцей ён падгадаваў — харошыя дзеці ў яго. Мы думаем, што і тут, сярод вас, ён будзе такім жа добрым чалавекам, якім быў сярод нас.

І я ўжо сваіх дзяцей таксама падгадаваў: хто ў горадзе вучыцца, хто тут у школе. А малы Яптунэ — Гусіная Лапка, яшчэ ў гульні гуляе. Вось і некалькі дзён таму назад, калі пургі не было, іду гэта я ў свой чум і бачу: мая Гусіная Лапка сабраў каля сябе такіх жа накольнікаў, як і сам. Падыйшоў бліжэй, прыслухаўся. Чую, у магазін гуляюць. Як жа абмінуць гэты магазін, калі з яго і цукеркі салодкія, і булкі смачныя!

Мой, значыць, за прылаўкам стаіць. А на прылаўку і каменьчыкі, і гліна, і снежкі. А ля яго — цэлая чарга.

— Іван, дай мне пяць буханак хлеба, дзесяць плітак чаю, пяць кілаграмаў цукру і пятнаццаць сукенак для маёй бабы.

А мой Іван—Гусіная Лапка ўсё адкладвае і ўпакоўвае. А за гэта грошы бярэ — паперкі рознакаляровыя. Калі ж грошы скончацца, ён камандуе:

— Хадзіце зарплату атрымліваць.

І ўсе зноў у чаргу становяцца. І ўсе яму расказваюць, хто дзе працуе:

— Я ў школе прыбіраю.

— Я повар у сталоўцы.

— Я рыбак, звеннявы.

І так радасна было тады маім нагам, што яны ўсё яшчэ ходзяць па тундры — дужа белай у месяцы харошых ловаў і дужа зялёнай у камарыны месяц. І мне было прыемна, што я яшчэ магу даць вось такую звычайную радасць сваім нагам — хадзіць...»

## Пра што думала бабка Нечы, размінуўшыся з Тэседа

«Тэседа паехаў дадому. Бачыла — не так ужо лоўка сядзіць ён на нарце, як некалі. Гады, што ні кажы, — гады. У чуме ўжо, мусіць, яго зачакалася Тэнэ. Прыгожа яны жывуць, дружна. Я ж памятаю, як яны пажаніліся. Тады ў стойбішчы гаварылі: «Глядзіце, якую прыгажуню прывёз у свой чум Тэседа! А якая яна ладная ўся. Адны грудзі — як тыя два чумы багацеяў, накрытыя шасцю нюкамі». Няхай сабе гавораць. Ці мала што каму падабаецца. Аднаму падабаецца худы, нібы той схуднелы шчупачок, чалавек, а другому — румяная, пухленькая, нібы азёрная рыбка, дзяўчына. А сам Тэседа... Як любіў ён пагаварыць! Яго апошнія словы заўсёды абганялі пярэднія. Але з Тэседа хоць пагаварыць прыемна. А іншыя толькі і абгаворваюць.

Памятаю, як я ўцякла з чума майго першага мужа. Колькі мяне тады няславілі! Але я пустыя словы пад сваімі нагамі тапчу, у свае сляды затаптваю, за галаву закідваю. А навошта ж з ім жыць буду, калі ён мне не падабаўся ні кропелькі: ці ў чуме сядзіць, дык з яго і слова не выцягнеш, ці па стойбішчу ідзе, дык усё пад ногі сабе глядзіць.

Затое на майго Сангачы я наглядзецца не магла. Усё ў яго руках аж



...І я ўжо сваіх дзяцей таксама падгадаваў: хто ў горадзе вучыцца, хто тут у школе...

гарэла. Пойдзе зімою на лёд лункі дзяўбсці дык ля гэтых яго лунак такі шум стаіць, быццам цэлы статак хораў хоркае. А, бывала, калі ідзе па тундры, дык яго ногі цэлую пургу ўзнімаюць — во як хутка хадзіў мой Сангачы. А калі ён на сваіх любімых аленях ехаў, каменныя мысы заставаліся для мяне незаўважнымі. Я не паспявала за імі сачыць — во як хутка ехаў. Ястрабы ўперадзе яго ляцяць, зірк — а яны ўжо ззаду Сангачы ляцяць.

Памятаю, ён усё марыў на Ямал з'ездзіць. Усё казаў мне:

— Калі я прыеду на Ямал, то неба ад радасці будзе апускацца над Ямалам, снег будзе правальвацца, зямля аж заскача, бо мая запрэжка будзе звінець тысячамі званочкаў і бомаў, бо ўсе людзі Ямала выйдуць мяне сустракаць.

Вось пра які шумны поспех на Ямале марыў мой Сангачы.

А вясёлы які ён быў! Пра яго ўсе гаварылі:

— Паміж трох жанчын заўсёды ў бяседзе вісіць яго галава.

І сапраўды, мой Сангачы ўсіх весяліў. Ён адразу мог гаварыць з трыма жанчынамі: толькі і круціў галавою—то сюды, то туды.

Сем дзён мяне сваты яго сваталі. Сем дзён у час вялікага сватаўства яны бегалі ў наш чум. А на сёмы дзень брат мне і кажа:

— Даставай-тка, Нечы, усё са свайго вандака, дзе ляжыць тваё самае лепшае ўбранне.

І тады я зразумела, што мяне Сангачы высватаў.

Падрыхтавалі, узасобілі людзі доўгія аргішы аленніх запрэжак. Мяне пасадзілі ў прыхарошаную жаночую нарту, засланую тонкім чырвоным сукном. Запрэжкі ўбралі чырвонымі каснікамі з аленняй шкуры, званочкамі галасістымі іх адобрылі. Маю нарту да самага стойбішча жаніха вяла сваццця. Мяне закрылі з галавою— нявесце ж няможна глядзець па баках, бо тады ўсё жыццё дрэнна будзе жыць з мужам. І мне жаніха не паказваюць. Яны то не ведаюць, што мы з Сангачы даўно ўжо зналіся. Мяне ў чум яго ўвялі. А ля чума вяселле рыхтуецца. Там забіваюць аленяў. Хлопцы скачуць праз нарты, праз разагнаныя запрэжкі, там — шумна, весела. І мне весела. Не тое, што ў дзень майго першага замужжа.

І заўсёды потым для нашага з Сангачы чума кветкі распускаліся — усё было на нашым стале. Мой жалезны напарстак і сёння корміць мяне, а здарыцца чорны дзень—і чарку паднясе, і важаком у запрэжцы будзе, і ўкрые ад лютай сцюжы. А тады ж я зусім маладая была і працавітая.

А вось майго Сангачы нічога не выратавала. Шэсць доўгіх дзён тады пурга шалела. Ды такая, што руку выцягнеш — рукі не відно. А ён быў якраз у тундры. Са стогнам чакала я вяртання Сангачы. Усе шэсць дзён чакала, калі пакажуцца вочы яго. Нават уяўляла, як аб снежныя паўночныя гурбы кідае пурга яго нарту, як пераскоквае яна з сумёта на сумёт — аж палазы рыпяць трывожна, нібы настылыя званочкі ад ветру халоднага заходзяцца.

Але злосны Нум не даў мне нацешыцца маёй радасцю — не вярнуўся дамоў Сангачы: яго дарога так і не дайшла да нашага цёплага чума.

А ад Сангачы засталася толькі добрая памяць. І вочы. Ды яшчэ голас. Я і зараз помню, як ён прасіў, каб я спела яму песню. Вельмі любіў ён маю, якую я сама склала. Давай-тка, Нечы, спяём яе — пурзе спяём. Можа і ён, Сангачы, пачуе..

Доўгімі аргішамі,
што здалёк падобны
на чародкі качак у лёце,
мы па тундры зімой і летам
вандруем.
І няма ў нас стомы,
а сіла і маладосць
ніколі не пакідае нас.
А ў мяне, прыгажуні паўночнай,
дзве тугія косы дзявочыя, чорныя —
як дзве моцныя жэрдкі чума майго.
І з цела я спраўная — як азёрная рыбка,
І працую я ўвішна, бы пясец у тундры,
і душа мая чыстая, нібы кропля дажджу.
Я хаджу па зямлі,
што пакрыта жоўтымі травамі,
тальнікам рэдкім,
і радуюся, што нарэшце знайшла
сваё шчасце.

І яшчэ ад Сангачы застаўся падарунак — Нумгыка, наша дачушка. Яна зараз жыве ў вялікім горадзе: за рускага замуж выйшла. Яе там усе завуць Ніна Сідараўна. І ў яе ўжо дачушка ёсць — Танюшка, мая ўнучка. А нядаўна і ўнук з'явіўся, Аляксандр. Цяжкое слова. Мне, старой, цяжка яго выгаварыць. Для сябе я называю яго Явыка. Так зручней і неяк цяплей. Не ведаю, можа і прывыкну некалі і да Аляксандра.

А мая Нумгыка, як я помню, дужа ў школу хацела. Бывала, рыбу ля ракі чысціць, а сама ўсё глядзіць у той бок, адкуль кацер павінен прыйсці, каб дзяцей у школу забраць.

І вось кацер кінуў якар ля нашага стойбішча. Пачакай, Нечы, а калі ж гэта было? Здаецца, у сярэдзіне жніўня. Неба тады было нейкае як падранае — з яго не перасціхаючы сыпаў дождж. Дзеці бегалі ля ракі і крычалі:

— Нюнеў, нюпеў, хэнёр тангей! Гагара, гагара, прынясі добрае надвор'е... Мерчар ханоў, сарор ханоў! Забяры вецер, забяры дождж...

А калі з'явіўся кацер, усе кінуліся хто куды. Адны за чумы свае пахаваліся, другія — аж у тальнік сігануліі. А мая Нумгыка да кацера кінулася. Аж я зазлавала. Дужа ж не хацелася мне яе ў тую школу аддаваць. Гляджу, а ўжо рускі — беды такі, у акулярах, адразу пазнаеш, што настаўнік — пасадзіў на плечы маю Нумгыку і нясе да чума. Так і паехала дачка. Назаўсёды паехала...

Загаварылася ты, Нечы, задужа. Глядзі, каб з дарогі не збіцца. Адчуваеш, вецер па другому пачаў у твар дзьмуць. Можа збілася? Не, еду правільна. Гэта толькі пурга павярнулася другім бокам. Ды і халаднавата ўжо трохі стала. Мусіць, гэта старасць, бо апранута я цёпла, як заўсёды».

Любоў Пракопаўна хоць з большага спяшалася дапамагчы мне зразумець лёс свайго маленькага (на Таймыры ненцаў каля 2 тысяч), але такога мужнага і такога працавітага народа. Яна вельмі часта выязджае ў тундру, яна — свой чалавек і ў зімовых, і ў летніх чумах.

— Бывае, калі абвесцяць, што ў чырвоным чуме я лекцыю чытаць буду, — спачатку не вельмі спяшаюцца: усе занятыя, ва ўсіх работа. А як даведаюцца, што лекцыя на нашай мове — прыходзяць. І, сумеўшыся, апраўдваюцца: «Ой, прабачце, што спазніліся, гэта ж гадзіннік, ведаеце, адстаў». А потым слухаюць, вельмі ўважліва слухаюць. І пытанні задаюць. Часцей за ўсё жанчыны і часцей за ўсё адно: «Чаму няма ў продажы харошага бісеру?» Ведаеце, нашы жанчыны дужа ўмелыя майстрыхі. Яны любяць аздабляць пацеркамі і адзенне і абутак. Як упрыгожаць унтайкі, дык ад іх вачэй не адвесці. А тут з бісерам цяжкавата. Не ўсміхайцеся, гэта сапраўды для нас, ненцаў, вялікая праблема. Не хапае бісеру, няма яго ў магазінах. Праўда, часам бывае, але шкляны. А шкляны ніткі рэжа. Толькі закончыш, бывае, работу, толькі пакрасуешся ў новай адзежыне крыху, а тут ніткі пацеркамі перарэжуцца і ўвесь арнамент так і абсыплецца. Вось таму і хвалюе гэтае пытанне нашых жанчын. Таму яны і пытаюць у мяне: «Чаму няма бісеру? А чаму ў купцоў быў?»

Так, у рускіх купцоў было ўсё. Быў бісер. Былі зманлівыя дзіцячыя забаўкі — для дарослых людзей. І каштавалі яны таксама нейкую дробязь— усяго некалькі пясцоў. Былі ў купцоў і медныя катлы. Харошыя, начышчаныя — аж блішчаць. І цана не бог ведае якая. Нават без грошай аддавалі іх ненцам купцы-дабрадзеі і ўсяго толькі яго трэба было напоўніць шкуркамі пясца. Поўненька напоўніць — укоптур. Можна было і сабалямі. Напоўні — і бяры на здароўе. У купцоў таксама заўсёды была ўлька-гарэлка. Вось яе купцы сапраўды не шкадавалі. Зусім без грошай давалі: пі, колькі хочаш. Бачыце, якія добрыя. А што ненец назаўтра, працверазеўшы, не далічваўся мноства пясцоў, рыбы і аленніх шкур — гэта ўжо дробязі. Што ж яны, купцы, могуць зрабіць, калі ў споенага ненца такая шырокая і шчодрая натура, калі ён сам усё аддае. Вось так улька, прыкінуўшыся самым вясёлым, самым шчырым сябрам ненца, хутка рабілася яго ворагам. А тундравік гарэлку, здавалася, абагаўляў, як Нума. І што самае крыўднае, гарэлка прасачылася нават у фальклор. «Гэтую песню я знайшла на рыльцы бутэлькі», — во як нярэдка пачынаюць свае песні нянецкія жанчыны.

Народы Сібіры плацілі рускаму царызму вялікую даніну — ясак. Раскладка ясаку ўлічвала кожны лук, кожнага мужчыну. Акрамя гэтага раскладнога ясаку паляўнічыя і аленяводы абавязаны былі плаціць яшчэ гасударавы і ваяводскія «памінкі» — а як жа людзі Сібіры павінны былі хоць раз у год успамінаць і ўсцешваць падарункамі таго, хто абіраў іх (маўляў, для іх жа радасці гэта і робіцца!). А дзе насельніцтва палічыць было цяжкавата, там ясак быў неабкладны: «Кто, что ясаку какою мягкою рухлядью даст, то у них и емлют». Асноўнай жа адзінкай вымярэння ўсіх сібірскіх футраў быў собаль. Нішто сабе «мяккая рухлядзь»! Толькі з-за гэтай «рухляди» людзей сілком прымушалі прысягаць. Шэрць (так называлася гэтая прысяга) заўсёды суправаджалася магічнымі абрадамі, дзе шаманілі не толькі свае шаманы, але і рускія купцы. А часцей за ўсё, найбольш распаўсюджаным метадам было вымаганне з дапамогай заложнікаў. Купцы бралі заложнікаў і потым рабілі абмен — так званы абмен вуха на вуха. Але хто памятае, колькі сабаліных вушэй трэба было аддаць, каб вызваліць аднаго заложніка. А потым самі беднякі збіраліся па дзве-тры сям'і, складалі, што ў каго было, і ставілі чум — адзін на ўсіх: хто аддаваў жэрдкі, хто шкуры, хто жалезную грубку...

Нярэдка падкуплялі знаць плямён падарункамі — прыклад у гэтым паказвалі нават цары. Яшчэ і сёння ў Краснаярскім музеі вісіць прыгожы каптан з чырвонага сукна і блакітны пояс з залатымі махрамі, якія Мікалай І 21 сакавіка 1837 года падарыў багацею-аленяводу Ока. За «усердие» — Ока ахвяраваў сотню аленяў для перавозкі ўсё той жа «мягкой рухляди».



...У купцоў таксама заўсёды была улька-гарэлка...

Сёння на Таймыры жывуць далганы, ненцы, нганасаны, эвенкі, энцы, якуты. Усе яны ствараюць сваю нацыянальную культуру.

— Гэта сённяшняя ява, — казаў мне Аляксандр Панфілавіч Расляков, сакратар Таймырскага акружкома партыі.—За ёю ўвесь свет сочыць. Вось, скажам, у перапіс 59-га года, нейкім чынам выпала ў нас цэлая народнасць—энцы. І адразу ж з Брытанскага каралеўскага інстытута ў нас запыталіся, маўляў, «па перапісу 1939 года на Таймыры жылі энцы. Згодна перапісу іх ужо няма. Дзе яны падзяваліся? Можа вымерлі?» Яшчэ што выдумалі — вымерлі... Паехалі туды паўторна, яшчэ раз апыталі — знайшлі. Так і жывуць на Таймыры малыя народы Поўначы.

# З пошты ЛіМа

# УЗДЗЕНШЧЫНА, ПАРНАС БЕЛАРУСКІ

Уздзеншчына... Чароўнейшы куток зямлі беларускай... Хто не наслуханы пра гэтую салаўіную старонку?! То ж адсюль, з-пад уздзенскіх гаёў, выпраўляецца вандраваць па Белай Русі славуты наш бацька Нёман.

Калыска Нёмна... А дзе ж, як не над калыскай, складаюцца самыя шчырыя, самыя чароўныя песні? Можа таму так прывольна і шырока струменіць з уздзенскай зямлі і іншая, песенная рака. У звонкай плыні яе пераплялося траха не паўтара дзесятка галасоў, і высока лунаюць яны пад небам бацькаўшчыны нашай.

Мудрая і дасціпная, сатканая з неперайамльна-народнага гумару байка Кандрата Крапівы...

Непаўторная, крышталёва-чыстая, як нёманская хваля, лірыка Паўлюка Труса...

Узнёслая і мужная, поўная нязгаснай сыноўняй любові песня Пятра Глебкі...

Яны ж нараджаліся тут пад світальны перазвон кос у мурожных лугах, над паўнаводнай Усай. У белым маёвым пошуме салаўіных надлошанскіх гаёў. Сярод сонечных пераліваў хваль у бяскрайнім жытнёвым моры...

Тут, дзе «сама зямля, браткі, спявае», што ні вёска — то альбо паэт, альбо празаік, альбо драматург. І што ні імя— самабытны, глыбокі, адметны талент. З Чурылава і Замосця — Алесь Якімовіч і Ілля Гурскі. З Рудкова і Прусінава — Сымон Баранавых і Алесь Пальчэўскі. З Дуброўкі— Антон Бялевіч, з Забалоцця — Алесь Махнач, з Лошы — Кастусь Шавель. А з Нізка, таго самага, адкуль Крапіва і Трус — Лідзія Арабей. З мястэчка ж Пясочнага, што на процілеглым, «капыльскім» беразе Нёмна—яшчэ два ўздзенцы — Анатоль Астрэйка і Адам Русак.

А што ж, калі паклікаць сюды яшчэ і маладзейшых, пачаткоўцаў? Бо, як вядома, лесу без падлеску не бывае...

І гэта — з аднаго кутка, з аднаго раёна, не надта вялікага па плошчы. Здаецца, стагоддзямі капіла тут запрыгоненая зямля такі неацэнны духоўны скарб, каб, раскаванай ад прыгону Вялікім Кастрычнікам, шчодра падарыць яго свайму народу.

Яны, пісьменнікі-ўздзенцы, заўсёды вылучаліся нейкай асабліва глыбокай пашанай, сыноўняй любоўю і замілаванасцю да роднага кутка і яго працавітых людзей. Часта прыязджалі сюды на сустрэчы з землякамі, у творчыя камандзіроўкі, а то і проста пагасцяваць да сваякоў, паблукаць па сцежках маленства, па родным лесе, ля любімай рэчкі... Яны дзяліліся з землякамі сваімі планамі і задумамі, уражаннямі ад далёкіх, бывала — заакіянскіх паездак. І такія сустрэчы ператвараліся ў сапраўдныя літаратурныя святы. У такія вечары ў раённы Дом культуры ці ў сельскі клуб з'язджаліся людзі нават з самых далёкіх вёсак: з Магільнага, з Лошы, з Цепленя. Як цёпла і сардэчна віталі яны сваіх песняроў, з якой пашанай захоўвалі потым кніжачкі з іх аўтографамі! Такая ўжо «прыроджаная» ў уздзенцаў любоў і пашана да роднага слова, да паэзіі, да кнігі. І як, бывала, натхнялі, акрылялі такія паездкі і памятныя сустрэчы з землякамі саміх пісьменнікаў, якое творчае гарэнне абуджалі ў іх сэрцах!

І вось зноў і зноў — то наяву, то ў думках вандруючы па сцежках гэтага беларускага Парнаса, міжволі думаеш... Так, край наш беларускі надта шчодры на таленты. Але такога пышнага букету, які ўзгадаваўся на ўздзенскай глебе, не ўзгадавала больш ніводная мясціна. Бадай, ва ўсёй краіне. Бадай, і за мяжой.

Дык чаму б пявучую Уздзеншчыну не зрабіць своеасаблівым запаведным кутком нашае роднае літаратуры? Думаецца, Саюз пісьменнікаў Беларусі не пройдзе міма гэтай прапановы.

У першую чаргу тут варта стварыць, на нашу думку, аб'яднаны літаратурны музей пісьменнікаў-уздзенцаў.

Пакуль што музей можна было б размясціць у часовым памяшканні. Але з цягам часу— пабудаваць добры будынак. Думаю, калі б Саюз пісьменнікаў абвясціў адкрыты конкурс на праект такога будынка, нашы архітэктары, скульптары, мастакі з радасцю прынялі б удзел у ім. Праект музея запланаваць у комплексе з паркам, а магчыма, нават з домам адпачынку. У маляўнічай мясцовасці, на беразе рачулкі. Такіх месц багата ў тым краі... І хай бы ў тым парку на памяць нашчадкам рос, скажам, дуб Крапівы, пасаджаны яго-нымі рукамі, дрэвы пасаджаныя іншымі пісьменнікамі-ўздзенцамі.

Можна было б стварыць таксама алею ганаровых гасцей, літаратараў з братніх рэспублік і суседніх краін.

З цягам часу, магчыма, таварышы з Саюза пісьменнікаў надумаліся б прымаць у свае шэрагі маладых не ў сталіцы, а тут, сярод наднёманскага прыволля. І каб іх новы малады сабрат па пяру таксама пасадзіў у мемарыяльным парку сваё дрэўца. Такая падзея, канечне, не забылася б да скону...

Вядома, варыянтаў, прапаноў, рашэнняў у гэтай справе можа быць мноства. Бясспрэчна адно: усё залежыць ад таго, наколькі сур'ёзна аднесціся да справы, наколькі сур'ёзна падтрымаць яе.

А якой добрай традыцыяй магло б стаць праўдзенне тут, на Уздзеншчыне, штогодніх масавых свят беларускай паэзіі. З удзелам самай шырокай грамадскасці рэспублікі, партыйных і савецкіх устаноў. Скажам, у першую суботу і нядзелю ліпеня, амаль на Купалле... Не толькі з Уздзеншчыны—з усёй рэспублікі з'язджаліся б на такія святы тысячы і тысячы аматараў паэзіі. Можна было б запрасіць гасцей з братніх рэспублік. Можна было б праводзіць конкурсы: Кандрата Крапівы — на лепшую байку, Пятра Глебкі — на лепшую грамадзянскую лірыку, Паўлюка Труса — на лепшы лірычны верш.

Якія сапраўды неабмежаваныя магчымасці для прапаганды роднага слова!

Нарэшце, тут можна было б праводзіць семінары творчай моладзі. Хай бы яны, маладыя, сэрцам прыпалі да тых чыстых і светлых крыніц, паслухалі тутэйшыя легенды, зведалі ўсё тое хараство, што некалі натхняла на песні іх настаўнікаў. Як бы прыдалося гэта маладым у іх вялікай літаратурнай дарозе.

Адна немалаважнейшая акалічнасць у карысць Уздзеншчыны — яе выгаднейшае геаграфічнае становішча. Яна ж, лічы, пад бокам ля Мінска, якіх-небудзь 75—80 кіламетраў. Хочаш — едзь па шашы Масква—Брэст, і ад паваротi ля Негарэлага да Узды застанецца ўсяго дзесяткі два кіламетраў; хочаш— па шашы на Слуцк, і ад Валяр'ян—таксама дваццаць кіламетраў.

З Уздзеншчыны рукой падаць да радзімы Якуба Коласа, да Мікалаеўшчыны, Альбуці і іншых коласаўскіх мясцін. Можна пехатой. Можна чаўнамі па Вусе і Нёмне.

Адсюль, можна сказаць, бачна і радзіма Кузьмы Чорнага, яго родныя Цімкавічы. Прыгадаем: гэта ж ён сам неяк летам, падкасаўшы штаны і па бродзе перайшоўшы Нёман, прыходзіў пешшу на Вялікую Усу, адведаць друга свайго Пятра Глебку...

Адсюль, з Уздзеншчыны — недалёка і да легендарнай Свіцязі, Навагрудчыны — міцкевічаўскіх мясцін.

Значыць, гарадскі пасёлак Узда мог бы стаць сапраўдным цэнтрам і базай для турысцкіх паходаў па памятных літаратурных мясцінах юных аматараў літаратуры, членаў школьных гурткоў. Не адну сціпленькую, якую мы маем цяпер, можна было б выдаць некалькі цікавейшых карт з такімі турысцкімі маршрутамі. Наведаўшы напачатку Уздзенскі літаратурны музей і родныя вёскі яе песняроў, юныя сябры літаратуры маглі б адправіцца адсюль у падарожжа па коласаўскіх, чорнаўскіх, міцкевічаўскіх месцах. Пешшу. Аўтобусамі. На чаўнах па Усе альбо Лошы і далей па Нёмне.

...Але пачынаць — з арганізацыі літаратурнага музея ва Уздзе. Справа гэта, на нашу думку, не церпіць адкладу. Добра было б, каб прэзідыум Саюза пісьменнікаў БССР ужо ў бліжэйшы час змог правесці ва Уздзе сваё выязное пасяджэнне сумесна з мясцовымі партыйнымі і савецкімі органамі, намеціць канкрэтную праграму дзеяння.

Уздзеншчына — гэта жамчужына зямлі беларускай, а яе песняры — наша нацыянальная гордасць. Трэба беражна ўзяць гэтую жамчужыну ў клапатлівыя рукі і паказаць усяму свету.

Пятро ЛІПАЙ.



РЭПЕТЫЦЫЯ скончылася. Праз фае і калідоры тэатра артысты спяшаюцца на вуліцу... Хто? Ветэраны сцэны? Тыя, у каго дома плачуць дзеці? Не. Хаваючы ў кішэні сшыткі з тэкстам ролі, лятуць на тралейбусны прыпынак або спыняюць таксі акцёры малодшага пакалення. Чаму яны так спяшаюцца? Куды шыбуюць? На радыё. На студыю тэлебачання. У павільёны «Беларусьфільм». Запісваць дзіцячую перадачу, дзе нехта з іх будзе ваўком ці лісам, або закукарэкае пеўнем...

Нічога ў гэтым дрэннага, як быццам, няма. Бо трэба ж акцёру пашыраць свой творчы дыяпазон, «выратоўваць» суседнія музы і атрымаць нейкую капейчыну за гэта. У мінулым нумары «Літаратуры і мастацтва» аб гэтым пісаў ужо дырэктар купалаўскага тэатра І. Міхалюта. Але калі паглядзіш некаторыя спектаклі на акадэмічнай сцэне ў Мінску і ўспомніш тую «нармальную» паспешлівасць, з якой акцёры «мяняюць коней», робіцца сумнавата.

Глядзім, скажам, апошнюю прэм'еру — «Памяць сэрца» А. Карнейчука «ўлезці ў скуру» персанажа, пераўвасобіцца. Ты запомніў тыя прыёмы, з дапамогай якіх наближаўся да мэты, тыя моманты, дзе зала ў цішыні слухала твой маналог або дружна смялялася. І ў новай ролі «крышку» паўтараеш знойдзенае—божачка, гэта ж толькі «крышку»! І ў наступным спектаклі тое ж «крышку»... Глядзіце, а ён штампуецца!..

Гэта — «Глядзіце, ён штампуецца!» — павінны сказаць акцёру акцёры ж, павінна сказаць рэжысура. Напрыклад, А. Доўгай, якая так цёпла была сустрэта ў ролі Паўлінкі, а потым не паказала ніводнай работы, вартай сур'ёзнай размовы пра яе творчасць, пра яе мастацкі пошук. Той, каму не давялося бачыць яе ў купалаўскай камедыі, па яе Галі ў спектаклі «Адкуль грэх?» нават і не падумае, што гэта актрыса абяцала і абяцае цікавую артыстычную індывідуальнасць. І зусім ве не вынесеце ніякага ўражання ад А. Доўгай у «Выкліку багам». А як дзяжурна выконваюцца ролі маладых герояў у спектаклі «Дзесяць сутак за каханне» Т. Кротавай і З. Зубковай! Як мала

# ЗАПАЛЬВАЕ ТОЙ, ХТО ГАРЫЦЬ

ка. Выходзяць на сцэну хлопцы і дзяўчаты. Знаёмыя твары. Знаёмыя ўсмешкі. Знаёмыя інтанацыі. Здаецца, гэты эпізод — працяг таго, што рабілі тыя ж самыя выканаўцы ў спектаклях «Традыцыйны збор» В. Розава або «Адкуль грэх?» А. Петрашкевіча, «Гросмайстарскі бал» І. Штэмлера або «Выклік багам» А. Дзялендзіка. Здаецца, маладыя артысты маюць і добрую школу, якую яны ў пераважнай большасці праходзілі ў Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце, і выразныя артыстычныя «дадзеныя», і ў рэпертуары ім ёсць што іграць. Але паспрабуйце, скажам, адрозніць таго ж А. Дзянісава і па знешнім малюнку персанажа, і па «жыцці чалавечага духу» ў Ігары з «Традыцыйнага збору» ад Піліпа Круглага ў «Гросмайстарскім бале»! У іх аднолькавыя «выбухі тэмпераменту» і аднолькавая жэстыкуляцыя. Нават гарнітур у гэтых спектаклях акцёр можа насіць той жа самы. Вядома, ён часам стараецца быць «у вобразе», аднак дзіўнаваты ўнутраны халадок стрымлівае А. Дзянісава ў яго пошуках і, на жаль, ён задавальняецца штампам. Хай сабе гэта яго, дзянісаўскі, штамп, лепшым такі — індывідуальны! — штамп ад гэтага не становіцца.

Канечне, калі б такое здаралася з адным акцёрам, пра гэта можна было б і не гаварыць. Але мы глядзім, як іграюць Т. Кротава і З. Зубкова, С. Некіпелава і У. Рагаўцоў, М. Казінін і А. Памазан, і заўважаем, як часта яны задавальняюцца «малым» поспехам. Што такое «малы» поспех? Твае індывідуальныя якасці, тое, што называюць «тыпажнасцю», адпавядаюць у нечым істотным драматургічнаму матэрыялу ролі, табе дапамагае рэжысура і вопытныя калегі па працы, і ты выходзіш на сцэну як быццам і «ў вобразе». На першы раз дасягнутае табой здаецца, а часам і пераконвае ў тым, што табе ўдалося «свайго», адчутага ў ролі дае Якіму Сароку В. Анісенка ў «Паўлінцы»...

МАБЫЦЬ, мы перабольшваем, калі гаворым, што тая паспешлівасць, з якой названыя тут акцёры «бягуць» з тэатра пасля рэпетыцый, адчуваецца на іх выступленнях у спектаклях. І ўсё ж... Застаецца такое ўражанне, нібы яны замест хвалявання і вясёлага ажыўлення ў «Памяці сэрца» або ў «Дзесяці сутках за каханне» проста мітусяцца і знешне паказваюць дынаміку і ўнутраны рух персанажаў. Гэта выглядае эцюдамі «на маладзёжную тэму», якія больш менш добрасумленна выконваюцца пачаткоўцамі, не пазбаўленымі пэўных акцёрскіх здольнасцей. Асабліва прыкра бачыць незавершаную эцюднасць на акадэмічнай сцэне ў такім трывалым у мастацкіх адносінах спектаклі, як «Паўлінка».

Той жа В. Анісенка, канечне ж, ведае, якая гэта складаная задача — іграць станоўчага героя ў камедыі-вадэвілі «Паўлінка», быць носьбітам ідэйнага пачатку ў асяроддзі такіх персанажаў, як Крыніцкія, Пустарэвічы і Быкоўскія. Якая шчаслівая магчымасць раскрыць арыгінальны характар!

На сцэне ж дзейнічае малады чалавек, пазбаўлены якраз характару. Усе надзеі ўскладзены ім на тэкст, які трэба вымаўляць то пяшчотна-лірычна, то з публіцыстычным напалам. Гэта і робіць В. Анісенка. А мабільная гатоўнасць Якіма Сарокі да рашучага, калі спатрэбіцца, учынку зноў жа выглядае ў яго мітуснёй юнака «наогул».

Прыблізна тое ж можна сказаць і пра А. Доўгую і З. Зубкову ў камедыі «Лявоніха на арбіце» А. Макаёнка. Іх Соня ўспрымаецца банальнай фігурай у даволі складанай драматычнай расстаноўцы дзеючых асоб. Паглыбіцца ў характар дачкі Лявоніхі і Лявона яны не здолелі. А можа і не рабілі акцёрскіх намаганняў па-

КІНО

# ЗДЗІЎЛЕННЕ

Тэхніка. Яна ўсюды. Мы ўжо даўно перасталі гэтаму здзіўляцца. Кінеш у аўтамат капейку — атрымаеш ваду, бутэрброд, яблыка, запалкі, газету. У тралейбусе — білет, на пошце — паштоўку... Аўтаматы-кантралёры. Аўтаматы-ўпакоўшчыкі. Мы не здзіўляемся, калі бачым гіганцкі кран альбо нават машыну, якая гуляе ў шахматы. Нас не здзівіш хуткасцямі: 400, 700, 2000 кіламетраў у гадзіну — ну што асаблівага? Рухомая лесвіца, імклівыя вадзяныя ракеты, самазаводныя гадзіннікі, амаль перпетуум-мобіле, магнітафоны... Як адказаў мне знаёмы хлопчык: «У мяне здзіўлення не хапае». Я раззлавалася на яго, калі ён абыякава разглядаў вялікі самалёт, пад крыламі якога мы здаваліся ўсяго толькі травінкамі.

— Ты ўяўляеш, ён узляціць!

— Угу, — паблажліва адказаў ён.

— Няўжо цябе гэта не здзіўляе?

Тады ён сказаў тыя словы пра здзіўленне.

Нашы сустрэчы сам-насам з прыродай усё радзей і радзей. Ужо не смешна, калі дзіця пытаецца, паказваючы на карову: «Хто гэта»? Вельмі многія хлопчыкі і дзяўчынкі ніколі не бачылі жывога індыка, напрыклад. Натуральна, хутчэй слана ўбачыш...

Але жыве ў чалавеку вялікая прага, нават страсць да прыроды... І рэдкія, іншы раз выпадковыя сустрэчы з ёю і хвалююць, і грэюць, і нясуць з сабой буйную нястрымную радасць.

## РОЛІ, РОЛІ, РОЛІ... А ДЗЕ ВОБРАЗ-АДКРЫЦЦЕ? ● КАЛІ ТВАЁ ПРЫЗВАННЕ — ТЭАТР... ● *ЭКСПЛУАТАЦЫЯ «ТЫПАЖНАСЦІ» — КАНЕЦ ПОШУКАЎ.* ● РЭЖЫСЁР, ПАМАЖЫ СТАНАЎЛЕННЮ МАСТАКА!..

глыбіцца? Не скарысталі цікавай магчымасці сказаць сваё слова, хоць ужо адно тое, што Соня штосьці нясе ад Лушкі, а штосьці ад Лявона—удзячная глеба для распрацоўкі характару дзяўчыны...

АРЭЖЫСУРА тэатра гэтага не бачыць? Адказаць цяжка. Бо калі прытрымлівацца норм педагагічнага нагляду над творчым станаўленнем акцёраў, яна павінна была б бачыць і прымаць адчувальныя захады для таго, каб малады творчы супрацоўнік не штампаваўся. І абавязкова рэжысура не павінна мірыцца з тым рамесніцкім спакоем, што спакваля авалодвае артыстам, які ўсё роўна ж атрымлівае ролі за ролямі ў бягучым рэпертуары тэатра.

Урокі артыстычнай этыкі, вядомыя па працах К. Станіслаўскага, тады бываюць дзейсныя, калі іх паўтараюць на канкрэтных прыкладах жыцця ў гэтым тэатры. Інакш яны застаюцца чыстай тэорыяй. Больш таго, выпрацаваныя самімі купалаўцамі традыцыі, у якія арганічна ўвайшлі і прынцыпы этыкі акцёра, таксама варта часцей напамінаць моладзі. Якія павароты ў лёсе У. Крыловіча і Б. Платонава, І. Ждановіч і В. Полы, Г. Глебава і Л. Рахленкі здзіўлялі гледача творчай смеласцю і самаахвярным служэннем мастацтву! Ад вострa характарнага персанажа да героя-любоўніка, ад буфанаднай ролі да жанравага партрэта—так яны пашыралі свой творчы гарызонт. Сёння, скажам, Л. Рахленка выступае марскім афіцэрам Максімавым у «За тых, хто ў моры» Б. Лаўранёва, а заўтра ён — Гарлахвацкі ў камедыі «Хто смяецца апошнім» К. Крапівы... І гэта здольнасць працаваць да сёмага поту, каб ператварыцца ў вобраз героя, які, на першы погляд, і не адпавядае тваім індывідуальным рысам,—таксама этыка.

А наша моладзь часам на сцэне змены ў грыме і гарнітуры лічыць дастатковымі для таго, каб у зале людзі гаварылі, што такі вось акцёр «не падобны» на сябе. Ашукаць гледача не так лёгка. Мы здагадваемся, што за тым жа Якімам Сарокам у В. Анісенкі або за Яўгенам Маркелавым У. Рагаўцова («Гросмайстарскі бал») не было паглыбленага акцёрскага пошуку. Маштабнасць мастакоўскага даследавання характару заўсёды дае больш плёну гэтаму вобразу і гэтаму спектаклю, і варта было б В. Анісенку і У. Рагаўцову ўважліва прыгледзецца да таго, як патрабавальна ставяцца да кожнага выхаду на сцэну ў тых жа спектаклях, напрыклад, П. Кармунін, Б. Уладамірскі, Г. Макарава, З. Стома...

Рэжысура Акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы пакуль што не часта выпрабоўвае моладзь на розных ролях. А варта, відаць, было б часцей рабіць гэта, хай сабе часам нават і без надзеі на тое, што кожны з «навічкоў» у нечаканым для яго амплуа «выплыве»! Калі звярнуцца да вопыту купалаўцаў старэйшага пакалення, памяць падкажа і выпадкі дзіўныя: здаралася, што акцёр «адмаўляўся» ад незвычайнай для яго ролі, гаварыў рэжысёру, што той «здзекваецца» з яго, даручаючы выступаць у вобразе, які «не ўласцівы» яго індывідуальнасці. А потым? Потым прыходзіў вялікі поспех, у артыста адкрываліся новыя грані таленту. Чаму ж цяперашнія маладыя купалаўцы так рэдка «даюць нырца» ў нязведанае?

А калі і «даюць», то не замацоўваюць потым знойдзенае ў глыбі характару. Прыклад — А. Памазан у ролях Быкоўскага ў «Паўлінцы» і Алёшкі ў «На дне». Паглядзелі мы гэтыя работы і парадаваліся: малады акцёр зрабіў пэўны крок да мастацкай сталасці, ён не пабаяўся «адыйсці» ад завучаных поз і інтанацый, раскрыў, відаць, уласцівае яму пачуццё гумару. Вобразна кажучы, прарастала нешта цікавае з зерня. Прарастала... і спынілася. «На дне» цяпер не іграецца на сцэне. А ў «Паўлінцы» А. Памазан не ідзе далей, а больш-менш паспяхова паўтарае да дробязей знойдзенае ім разам з рэжысёрам С. Бірылам тады, калі яго «ўводзілі» на ролю Б. Платонава!

Чаму так хутка гасне агонь творчасці ў такіх выпадках? Якія прычыны тармозяць развіццё асабістай ініцыятывы артыста ў рабоце над вобразам, яму безумоўна цікавым і вартым таго, каб стаць этапным у біяграфіі?..

Зноў жа—хочаш ці не хочаш!—думаеш, што тут многае залежыць ад рэжысуры. Яна павінна мець густ і схільнасць да педагагічнай дзейнасці ў калектыве. Яна можа так весці рэпетыцыі, што кожная будзе павучальнай і пашыраць магчымасці акцёраў у раскрыцці патэнцыяльных здольнасцей мастака.

Спашлёмся на ўспаміны народнага артыста СССР М. Яншына, які піша: «Я быў любімцам у Станіслаўскага, але ніколі гэтага не заўважаў. Толькі — патрабаванні, самыя жорсткія патрабаванні. Калі ўспомніць рэпетыцыі Канстанціна Сяргеевіча, яны даходзілі да сапраўднай экзекуцыі. Колькі разоў мы былі сведкамі на рэпетыцыях Станіслаўскага, калі пасля пакутлівай, шматгадзіннай работы над адным словам, стомленаму да рэшты акцёру Станіслаўскі казаў: «Вы думаеце, што я ад вас адчаплюся? Я магу сядзець да раніцы»...

Калі сочыш за выступленнямі маладых купалаўцаў, нават думкі не бывае аб тым, што з імі займаліся «да раніцы», не кажучы ўжо пра тое, што яны і не ведаюць пра «рэпетыцыі-экзекуцыі». А без гэтага і Яншын не стаў бы Яншыным! А без такіх урокаў Е. Міровіча, Л. Літвінава, К. Саннікава, М. Зорава наўрад ці выраслі б у вялікіх майстроў-мастакоў зоркі плеяды артыстаў, якія стварылі Першы БДТ, стварылі славу тэатра імя Янкі Купалы!

КУЛЬТУРА творчасці — пра гэта трэба дбаць штодзённа. Нам давялося быць на спектаклі «Гросмайстарскі бал» у той вечар, калі па тэлебачанні чакалася перадача з Мехіка, з футбольных баталій. Божухна, які тэмпа-рытм прапанавалі спектаклю выканаўцы роляў. Рэплікі скарачаліся, адзін персанаж «перахопліваў» тэкст другога, а на П. Кармуніна, які спрабаваў усё ж вытрымліваць хоць трошкі натуральныя паўзы, партнёры глядзелі, як на злачынцу. І гэта — на акадэмічнай сцэне! Відаць, не было ў той вечар у тэатры ні рэжысёра Ф. Шэйна, ні яго асістэнта Г. Уладамірскай, бо ніхто не спыніў шалёны тэмпа-рытм, і спектакль быў сапсаваны канчаткова. Але ж маладыя могуць палічыць, што і гэта ім дазволена, што так нават больш зручна і для гледача, які таксама любіць футбол або хакей. Тады і ў наступны раз мы сустрэнем «ліхаманкавыя варыянты» таго ж «Бала» ці «Паўлінкі».

Выдатны спектакль у купалаўцаў «Людзі на балоце» па рамане І. Мележа. Тэатр па-мастацку, на мове сцэнічнага мастацтва раскрыў складаную праблематыку твора і стварыў праўдзівую атмасферу дзеяння. І акцёр быў ў цэнтры гэтага спектакля — ён даследваў рэчаіснасць праз характары тых, каго на старонках прозы паказаў раманіст, ён даваў другое жыццё персанажам каларытным і яркім. Цяпер і тут бачыш механічнасць у выкананні роляў, і гэта пераважна ў маладых акцёраў. Згубілася нешта і ў дэкарацыях. Адным словам, не тыя цяпер нават і «Людзі на балоце». У агульным ладзе пастаноўкі з'явілася хадульнасць. Гэта насцярожвае ў сувязі з той праблемай станаўлення моладзі, якую мы закранулі. «Калі можна такім чынам абыходзіцца нават з адным з лепшых спектакляў,—падумае малады акцёр, — дык чаму тады прэтэнзіі да мяне ў якіх-небудзь «Дзесяці сутках...».

ТЭАТР рыхтуецца адзначыць паўстагоддзе свайго творчага жыцця. Зразумела, перабіраючы ў памяці святы і перамогі, якія былі на шляху купалаўскай трупы, мы будзем думаць і пра яго заўтрашні дзень. А ён перш-наперш залежыць ад таго, якой будзе змена ветэранам. Многіх з тых маладых, аб кім тут гаварылася, мы віталі яшчэ на інстытуцкай сцэне, радаваліся іх дэбютам на акадэмічнай. Тэатр таксама шчодра давярае ім і дае шырокія магчымасці для творчасці. Але сцэна — гэта пляцоўка, дзе нельга жыць без настойлівага руху наперад і задавальняцца лёгкім поспехам. У тэатры складаецца лёс мастака, а не кар'ера рамесніка. Мяркуючы па спектаклях сезона, праблема творчага станаўлення моладзі — праблема нумар адзін для купалаўцаў. Канечне, штосьці залежыць ад таго, як вучылі і як вучыліся ў інстытуце будучыя акцёры. Але іх прынялі ў акадэмічны тэатр, і тут кожны павінен думаць аб майстэрстве, вартым гэтага тэатра. Аб творчым росце моладзі павінна клапаціцца і рэжысура.

«Школай на хаду» называюць, бывае, тэатр, маючы на ўвазе жыццё артыста. Так, вучыцца ён абавязаны ўсё жыццё. І хацелася б, каб тэатр імя Я. Купалы быў для сваёй моладзі такой школай заўжды. І ў дні свята, і ў дні будняў.

**Аляксей СНЫТКО,**
**Мікола ДАСЕКА.**

## СЯБРОЎСКАЯ СУСТРЭЧА



У Доме мастацтваў БТА адбылася творчая сустрэча калектыву Горкаўскага акадэмічнага тэатра драмы імя М. Горкага з прадстаўнікамі грамадскасці беларускай сталіцы. Не было той афіцыйна-святочнай атмасферы, якая пануе ў тэатры. Ішла таварыская размова і даваліся ілюстрацыі да яе. Пра творчы шлях артыстычнай трупы (а тэатру амаль 170 гадоў), пра яе сённяшняе жыццё і дзейнасць расказаў галоўны рэжысёр, заслужаны дзеяч мастацтваў і лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РСФСР Б. Воранаў. Сцэны са спектакляў рэпертуару тэатра паказалі народны артыст і лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РСФСР В. Кузняцоў, народны артыст РСФСР С. Ажыгін, заслужаныя артысты рэспублікі Р. Вашурына, Э. Суслава, У. Віхроў, Р. Малянкова і іншыя. Яны як бы прагарталі старонкі твораў класічнай і сучаснай драматургіі, дэманструючы разнастайнае багацце акцёрскіх індывідуальнасцей, сваю адданасць прынцыпам рэалістычнага мастацтва.

Ад імя гаспадароў Дома мастацтваў БТА горкаўцаў цёпла вітаў заслужаны дзеяч мастацтваў БССР Ул. Стэльмах. Гасцям былі ўручаны памятныя падарункі і кветкі беларускага ліпеня.

## 65 ГАСТРОЛЬНЫХ СПЕКТАКЛЯЎ

Прайшло 15 гадоў з часу папярэдніх гастроляў Гродзенскага абласнога тэатра ў Віцебску. Сёлета наш калектыў зноў сустрэўся з працоўнымі гэтага цудоўнага горада на Дзвіне, з калгаснікамі вобласці. Паказалі мы даволі разнастайны рэпертуар—«Я прысягаў Радзіме!» А. Струніна, «Маё сэрца з табой» Ю. Чапурына «Чорныя ружы» Я. Дзікань і іншыя п'есы.

На гастролях мы адзначылі і нашы тэатральныя святы — сыгралі ў калгасе «Бальшавік» Сенненскага раёна соты спектакль «Крымінальнага танга» Э. Ранета, а віцяблянам таксама ў соты раз паказвалі «Другую» С. Алёшына. Гледачы цёпла віталі рэжысёра В. Скарабагатава і тых удзельнікаў, якія выступаюць у гэтых пастаноўках без дублёраў,—Л. Юзэфовіч, Ф. Цітарэнку, М. Малахава, Р. Адзіса і аўтара гэтых радкоў. Віцябляне былі першымі гледачамі нашай прэм'еры—драмы «Акіян» А. Штэйна ў пастаноўцы заслужанага дзеяча мастацтваў РСФСР А. Струніна, якой мы пачнём чарговы сезон восенню ў Гродна.

Сустракаліся артысты і з драматургам А. Петрашкевічам: гродзенскія гледачы першымі ўбачаць яго камедыю «Адкуль грэх?» на рускай мове. Будучыя выканаўцы роляў падзяліліся сваімі ўражаннямі і выказалі таварыскія парады аўтару камедыі, выслухалі яго пажаданні адносна трактовак дзеючых у п'есе персанажаў.

Спектаклі гродзенцаў паглядзелі працоўныя Аршанскага, Дубровенскага, Віцебскага, Сенненскага раёнаў. Нашы акцёры выступалі перад рознымі аўдыторыямі з лекцыямі аб тэатральным мастацтве, аб увасабленні вобраза У. І. Леніна на сцэне. Заслужаны артыст БССР С. Аляксандраў пабываў на дывановым камбінаце і на фабрыцы «КІМ». Пасля такіх лекцый іграліся сцэны з нашых спектакляў.

За час гастроляў на Віцебшчыне тэатр паказаў 65 спектакляў. Абком КПБ і абласны Савет дэпутатаў працоўных узнагародзілі калектыў Ганаровай граматай.

**Ул. ДЗЁМІН,**
артыст Гродзенскага драматычнага тэатра.

Няма большага адкрыцця, большага здзіўлення, чым тое, якое прыносяць нам сустрэчы са звычайным полем, з васількамі ў жыце, са стэпам з пунсовымі макамі, з рэчкай, што хавае свой блакіт у густой зяляніне хмызняку.

Аб гэтым расказалі ў сваім маленькім фільме «Цёплы летні дождж» рэжысёр В. Шаталаў, паэт Л. Лучкін і кампазітар С. Пажлакоў.

Змест фільма вельмі просты, але гэта тое імгненне, якое вырвана мастацтвам з вечнасці...

Бадзяўся па аэрапорце хлапчук, глядзеў па баках. Волаты-самалёты, якія здаюцца нязграбнымі на зямлі, замёрлі, чакаючы ўзлёту.

Ідзе дождж.

За свае сем гадоў хлапчук, напэўна, «адмахаў» ужо не адну тысячу кіламетраў. Яму ўсё тут прывычнае і знаёмае.

І раптам... О, цуд! Проста па мокрым, бліскучым асфальце, прыгожа і грацыёзна, лавіруючы паміж машынамі, бяжыць жарабя. Адкуль прыйшоў сюды гэты рыжы прыгажун? Можа проста заблудзіўся з бліжэйшага калгаса? А можа дрэсіроўшчык перавозіць сваіх выхаванцаў, і гэты выйшаў прагуляцца?

Але як бы там ні было, хлапчук убачыў каня. Убачыў і — акамянеў. Убачыў і ажывіўся. Здзівіўся. Заблішчэлі, забегалі вочы на амаль што абыякавым, спакойным твары. Здавалася, яшчэ імгненне таму назад яго нічым нельга было здзівіць. А вось зараз «зачаравала» яго жарабя. Хлапчук пабег за ім, гнуткі, тонкі...

Там за полем аэрадрома пачынаецца лес. І туды, у царства зяляніны і сонечных блікаў, прывёў жарабя і хлапчука імклівы бег.

Пахам кары, сокам дрэў, прэлай травой дыхнула на іх.

Захоплены пагоняй, апантаны жаданнем (ідэяй!) дагнаць і прыручыць даўганогага, ён не заўважае, як суччо чапляецца за ногі, не заўважае стомы.

Пейзажы адзін за другім паўстаюць перад яго вачыма. Буянства прыроды, такой дарагой яму і патрэбнай — працяг яго шалёнай радасці ад такой нечаканай і шчаслівай сустрэчы.

І вось ужо дагнаў хлопчык жарабя, дакрануўся рукой да яго гладкай шыі, прыпаў галавой да яго бліскучай скуры.

І няма зараз для хлапчука нічога ў свеце, акрамя гэтага коніка, гэтага лесу, гэтай прасторы.

Калі ў жыцці чалавека бываюць хвіліны, якія яму потым помняцца заўсёды, дык гэта можа была такая хвіліна. Калі бываюць у жыцці чалавека імгненні, у якія ён вырашае нешта асабліва важнае для сябе, дык гэта было можа гэтае імгненне.

Конік яшчэ супраціўляецца, хоча ўцячы, але робіць гэта без ранейшага імпэту, быццам зразумеўшы, што і яму патрэбна цёплая рука і дапытлівыя вочы хлапчука. Яму, як чалавеку, патрэбен сябра. І, бадай, гэты бясстрашны і настойлівы малы падыходзіць.

І вось ужо хлопчык імчыць праз лясы, праз лугі, праз пшанічнае поле, ляціць наперарэз ветру, быццам крылы ў яго выраслі, а жарабя даганяе яго.

І ў гэтых эпізодах, выдатна знятых апаратарам, цікава задуманых сцэнарыстам і рэжысёрам, вялікая і вечная гармонія Чалавека і Прыроды.

Яна ёсць! Яна жывая!
Летнія дажджы кароткія.
Узлятае самалёт.
У ім хлопчык.

А побач з узлётнай паласой, быццам спрабуючы дагнаць яго, бяжыць новы сябра хлопчыка — жарабя.

**І. ПІСЬМЕННАЯ.**




# ПАКУЛЬ ДАГАРЭЛА ЦЫГАРЭТА

АПАВЯДАННЕ



АЎТАР гэтага апавядання Мілаш Крно, належыць да той плеяды славацкіх пісьменнікаў, якім крылы для творчага палёту даў удзел у анфашысцкай барацьбе, у Славацкім нацыянальным паўстанні. 1944 год, у якім пачалося паўстанне, быў і годам нараджэння Мілаша Крно як пісьменніка — выйшла яго першая кніжка. Ён пачынаў з паэзіі, але хутка перайшоў на прозу — апавяданні пра партызан, потым раманы, якія, паводле задумы аўтара, павінны адлюстраваць важны перыяд сучаснай гісторыі славацкага народа.

Мілаша Крно цікавіць савецкая літаратура— ужо у 1947 годзе ён выдае зборнік савецкай паэзіі «Узніміцеся, сцягі» ў сваіх перакладах. Беларуская паэзія прадстаўлена была ў зборніку вершамі Я. Купалы. Я. Коласа, П. Броўкі і А .Куляшова. Вершы Купалы ў перакладзе М. Крно ў канцы саракавых гадоў можна было сустрэць на старонках славацкай перыёдыкі. А ў 1952 годзе ў новым зборніку савецкай паэзіі, выданай у Браціславе ў перакладзе Крно, былі змешчаны вершы П. Броўкі.

Працуючы над раманам пра легендарнага героя антыфашысцкага Супраціўлення, слаўнага партызана Яна Налепку-Рэпкіна, М. Крно ў 1955 годзе наведаў Беларусь. Плёнам гэтай паездкі і творчай працы пісьменніка з'явіўся раман «Я вярнуся жывы», добра вядомы і нашаму чытачу ў перакладзе Я. Бяганскай.

Пяць гадоў назад мне пашчасціла асабіста пазнаёміцца з Мілашам Крно, пабыць у яго браціслаўскай кватэры. Мяне, вядома, асабліва цікавілі пераклады з беларускай паэзіі, і пакуль гаспадар гутарыў з іншымі гасцямі, я, з яго дазволу, лазіў па кніжных паліцах, таропка гартаў старонкі анталогій і зборнікаў, рабіў нататкі ў сваёй запісной кніжцы. І вельмі прыемна было даведацца, што цікавасць да беларускай літаратуры стала ў доме Крно сямейным захапленнем — жонка Мілаша, Вера Крнова парадавала нас перакладамі са «Жмені сонечных промняў», якія передаваліся па браціслаўскаму радыё і друкаваліся ў часопісе «Рогач».

Потым былі пісьмы — Мілаш Крно пісаў пра сваю працу над сцэнарыем фільма пра Яна Налепку, цікавіўся, як паставяцца да ідэі паставіць сумесны фільм на нашай кінастудыі. І вось дасягнута пагадненне аб пастаноўцы беларуска-славацкага фільма пра агульную нашу барацьбу супраць фашызму І, трэба спадзявацца, Мілаш Крно будзе цяпер часцей наязджаць у нашу сталіцу.

Алесь МАЖЭЙКА.

ЁН СТАЯЎ на жалезным мосце, а пад ім гула рэчка. Яна моцна стукалася ў бетаніраваныя берагі, пенілася, быццам бы кіпела. І была чорная, як ноч.

Да яго падышоў прыяцель, прыжмурыў вочы і набраў на ўсе грудзі вечаровага паветра. Ён зашпіліў плашч і прамовіў:

— Радуюся вясне.

І, успомніўшы маладосць, хацеў яшчэ нешта сказаць, але на вочы набеглі слёзы. І ён больш ні слова не сказаў пра вясну, бо добра ведаў сябе — варта выпіць з літр, як ужо цёпленькі.

Хутчэй закурыў. Так будзе лепш.

Тытунь задушыць сентыментальнасць. Нездарма ж у гарнізоне смяяліся з іх абодвух — казалі: дайце ім віна і цыгана, дык яны і ў мундзірах заплачуць.

Рэчка гула аднастайна, нібы закалыхвала, і ва ўсім гэтым была нейкая прыцягальная сіла. На вадзе ляжалі промні святла.

Ён адвярнуўся, глянуў на прыяцелеву цыгарэту, а пасля зноў пачаў углядацца ў ваду. Нахіліўся над поручнямі. Закалацілася сэрца, а на твары з'явілася нейкая д'ябальская ўсмешка.

Вясна! Хто ж цяпер радуецца вясне?

А што калі яшчэ больш нахіліцца і галавой уніз? Засвістала б у вушах, кроў прыліла б да галавы—і ўсяму быў бы канец.

Як нейкая недапетая песня, была ў яго туга і жаданне скончыць з усім.

А што калі ўсё-такі кінуцца ўніз галавой?

А дзеці, жонка? Ад думкі пра сям'ю стала страшна. Ён моцна сціснуў халодныя поручні, нібы хацеў утрымацца на месцы, не паддацца прыцягальнай сіле рэчкі. Зноў глянуў на прыяцелеву цыгарэту.

Не, нічога не скончыцца, усё будзе як было. Размова самога з сабой будзе цягнуцца бясконца, падмацаваная афіцыйнымі і самазванымі суддзямі, падсілкаваная ўласным сумленнем. Сапраўды, нічога не скончыцца. Папрокі зноў і зноў будуць сыпацца на яго, пасцель будзе здавацца мурашнікам, не, спакою не будзе, як і ў гэтай бурлівай рэчкі.

Папрокі... Зноў яны побач. Так. Яны заўсёды з'яўляюцца пасля некалькіх градусаў алкаголя ў крыві. Вось і цяпер яны тут.

«Навошта ты пайшоў на гэта? Асіраціў дзве сям'і, забраў у маткі апошняга сына. Яны ж будуць праклінаць цябе да самай смерці, будуць праклінаць і дзяцей тваіх. Ты павінен быў узбунтавацца, адмяніць той загад. Чаму ты яго выканаў? Ну добра, а ты ведаеш, чый гэта быў загад? Выявілася, што ён быў вораг. Так, ваш маёр. Ты гэтага тады не ведаў, добра, але ж ён сам цябе папракнуў, што ты не браў пад увагу акалічнасці, не сарыентаваўся ў абстаноўцы на месцы. Ён сам!»

«Гэта вы давялі майго старога да смерці. Не адмаўляйцеся, ведаю, што гэта былі вы, вы! І яшчэ ведаю, што ён прадчуваў смерць і таму не хацеў ісці з вамі. Не разумею, якое ў вас сэрца, ці ёсць яно ў вас? Вам варта скончыць жыццё самагубствам!»

За што? Ён пра гэта падумаў хвіліну назад, калі прыяцель прыкурваў цыгарэту. Але чаму ён павінен скончыць жыццё самагубствам? Хіба таму, што выканаў загад? Слепа? Не. Ён спрачаўся, адмаўляўся, але ўсё-такі загад выканаў.

— Дзе жанчыны? — спытаў начальнік штаба. Ён меў на ўвазе сваю жонку і яе сястру, каханку камандзіра, якія хаваліся ў вёсцы.

— Яны ў натарыусавай удавы,—адказаў ты. — Іх там ведаюць як яе дачок.

— Калі ты пра гэта даведаўся?

— Учора вечарам, пан маёр. Ім там добра. Немцы нічога не падазраюць.

— Вазьмі шэсць хлопцаў. Пад раніцу ідзіце ў вёску і на другім канцы ўзніміце паніку. Немцы кінуцца туды, а вы ў гэты час возьмеце жанчын і завядзеце ў лес да трыангуляцыйнай вышкі. Мы з камандзірам будзем іх там чакаць.

— У немцаў жа там моцная ахова.

— А ты што—баба? Паслязаўтра мы выступаем. Набліжаецца фронт. Напляваць на іх моцную ахову, ты павінен даставіць жанчын!

— А можа гэта зрабіць тады, як мы выступім, пад шумок? Тады будзе лягчэй.

— Ты чуў, мусіш іх даставіць заўтра.

— А як...

— Ніякіх як. Загад ёсць загад.

Карацей кажучы, жанчыны маюць важныя справы для штаба. Ты павінен да іх прабіцца, каб нават каменне з неба падала!

Каб толькі каменне!.. Ён груз вышэй кален у снезе, а за ім ішлі шэсць хлопцаў з вінтоўкамі і гранатамі. Ішлі пад покрывам ночы, ім дапамагала густая імгла, і паўночны вецер, які замятаў сляды на снезе. Падышлі да берагу, зарослага вярбой. Сунуліся па лёдзе, нібы цені, моцна сціскаючы вінтоўкі і азіраючыся па баках.

«Праскочым у вёску, пакуль яшчэ цёмна. Вазьму з сабой аднаго хлопца, а астатнія распачнуць страляніну за гумнамі. Калі ўсё будзе ў парадку з жанчынамі, дам сігнал двума стрэламі, каб хлопцы хутчэй беглі да лесу, а адтуль у бункеры».

За нямецкіх вартавых зрабілі ўсё іх сабакі. Унюхалі партызан і заліліся гучным, злосным брэхам.

«Каб нават каменне з неба падала»,—нібы водгулле пранесліся ў галаве маёравы словы. А хлопцам горача—ідуць жа на пэўную смерць. Аж мурашкі пабеглі па спіне ад гэтай думкі. Можа, адкласці гэтую аперацыю?

Немцы ж не кожную ноч будуць у стане «баявой трывогі». А калі ў жанчын пільныя справы ў штабе? Не, загад трэба выканаць, калі б нават каменне падала з неба...

— Мы павінны ўварвацца ў вёску,—прашаптаў, калі хлопцы аказаліся побач.—У жанчын важныя справы ў штабе. Двое з нас пойдуць, а астатнія распачнуць праз пяць хвілін страляніну.

Ён бачыў у туманнай імгле нахмураныя ілбы і моцна сціснутыя кулакі. Немцы на сабачы лямант адказалі стрэламі. Хлопцы заляглі за дрэвамі, толькі двое падаліся ў вёску.

Яшчэ не позна, падумаў ён,—можа, вярнуцца? Жанчынам нічога не зробіцца, калі пачакаюць якую пару дзён, магчыма і справы ў іх не такія важныя і тэрміновыя. Адно ясна, што пасля гэтай аперацыі не ўсе астануцца жывыя. Ці маю я права гнаць людзей на пагібель?

Ён запаволіў, сцішыў крок. Можа, вярнуцца? Але ж тады пападзеш пад суд. Не выканаў загад, у штабе не атрымалі важнай інфармацыі. Не, ніхто не даў права сумнявацца ў важнасці інфармацый. Атрымаў загад і павінен яго выканаць у што б там ні стала, так сказаў маёр. Каб нават каменне...

У жыцці ў людзей падзелены задачы, мільганула ў яго галаве думка. Як і на вайне. Адзін загадвае, другі выконвае загад Бо ў гэтым зарука дысцыпліны і баявой маралі, Прыгожа б гэта выглядала, каб кожны філасофстваваў: варта ці не варта выконваць загад. На строгай дысцыпліне трымаецца партызанская вайна, а не на дыскутарах, абвешаных гранатамі.

— Пойдзем,—сказаў больш сам сабе і глянуў на гадзіннік...

Ужо сонца пачало прадзірацца праз снегавыя хмары, калі іх трое вярнулася да бункера. З апушчанай галавой, цяжкімі нагамі і знямелым языком. Жанчыны засталіся ў натарыусіхі, яны пабаяліся ісці ў горы, і нічога не ведалі ні пра якія справы. Апрыкрала маёру манашаскае жыццё ў бункерах, захацелася мець пры сабе сваю палавіну, і ў начальства ж цячэ ў жылах кроў...

Людзі ў вёсцы надзейныя, не здрадзяць, абедзве жанчыны жывуць там. З іх галавы не ўпадзе ні адзін волас. А трое яго хлопцаў не вярнуліся! Павёў людзей на смерць з-за капрыза начальніка штаба.

Выканаў страшны загад, ад пачатку амаральны, але верыў, што павінен даставіць у штаб важную інфармацыю, што дысцыпліна—гэта галоўнае.

— Абедзве засталіся там, і ні пра якія справы нічога не ведаюць, пан маёр. Яны не захацелі ісці з намі. А мы страцілі трох хлопцаў.

Маёр пачырванеў. Схапіўся за галаву, сеў на ложак, і ўздыхнуў:

— Дурань, чаго ж ты лез? Ты павінен быў ацаніць сітуацыю і мы адклалі б аперацыю. Як жа так, трох страціў?

— Вы загадалі ў што б там ні стала...

Маёр махнуў рукой:

— Так. Але ж можна было разабрацца ў сітуацыі. Хлопцаў трэба берагчы.

Пілат, ухмыльнуўся ён, сапраўдны Пілат. Уцягнуў яго, а сам цяпер ўмывае рукі. Невінаваценькі.

А што, каб не выканаў загад? Што б тады маёр сказаў? Паставіў бы да сценкі іншым на страх.

Маёр даслужыўся да палкоўніка, выйшаў на пенсію і паехаў за мяжу. Тады прыйшлі першыя расчараванні. «Твой начальнік штаба здраднік, а ты быў сляпым выканаўцам яго загадаў. Так, ты быў яшчэ малады, нявопытны, але ж... З-за капрызу двух афіцэраў кінуўся з хлопцамі супраць пераўзыходзячага сілай ворага. Абсалютнае самагубства, і толькі праз глупства».

Вы павінны былі скончыць жыццё самагубствам... Бяссэнсіца, тая ж жанчына не ведае, як ўсё было, як спрачаўся сам з сабой, з маёрам, як паверыў загаду. Ён не так вінават у тым, што нічога не змог зрабіць, як. тым, што застаўся жывы. Але ж гэта толькі выпадковасць.

Чаму ён такі чуллівы да таго, што было ў гарах? Пазней яго жыццё навучыла. Агрубела скура. Рабіў не заўсёды так, як было трэба, забыўся на сяброў, але гэта не ўспамінаецца. У гарах было ўсё такое чыстае, як белы снег. Чыстымі былі пачуцці, думкі, сувязі, узаемаадносіны, і таму кожная кропля бруду выводзіла яго тады з раўнавагі.

Як і цяпер. Ён стаяў на жалезным мосце, а пад мостам гула рака. Трымаўся за халодныя парэнчы і глыбока дыхаў—перамагаў магнетычную, прыцягальную сілу вады. Тая хвіліна, калі ён вагаўся ці кінуцца яму з моста, прайшла. Адляцела далёка, але можа яшчэ вярнуцца.

Каля яго стаіць сябра, які радуецца вясне. А гэта ж вялікая справа радавацца вясне! Успомніў дзяцей, жонку. Усё будзе, як было, і нічога не скончыцца. Ён стаяў над вірлівай ракой і не кідаўся ў яе абдымкі. Бачыў, як паляцеў з моста акурак сябравай цыгарэты, як ён свеціцца ў цемры, а пасля згасае.

Сябра глядзеў на яго і не разумеў, што з ім адбылося. Сябра ўсміхнуўся, паказаў рукой на агні горада і сказаў:

— Паглядзі, узыходзіць месяц. Бачыш?

— Так, бачу,—кінуў ён, хоць нічога не бачыў. Толькі раку, цяпер ужо лагаднейшую і вельмі далёкую. Яму здавалася, што ў жылах яго, замест крыві, рака—халодная, вірлівая, чорная.

Пераклала са славацкай мовы В. КРАЙКО.

# КІНО, ТЭЛЕБАЧАННЕ І ГЛЯДАЧ

*НАТАТКІ АБ МІЖНАРОДНЫМ НАВУКОВЫМ СІМПОЗІУМЕ*

Калі графічна паказаць гэту праблему, то, відаць, атрымаўся б трохкутнік з роўнымі бакамі: кіно, тэлебачанне, глядач. Цесныя сувязі з узаемным уплывам паміж гэтымі трыма «бакамі» патрабуюць пільнага, глыбокага вывучэння. Роля сродкаў масавай камунікацыі ў сучасным грамадстве, удзел кіно. тэлебачання ў фарміраванні чалавечай асобы і, з другога боку, патрабаванні, якія прад'яўляюць гледачы да мастацтва, і сярод іх самае галоўнае—наколькі поўна, цікава задавальняе яно духоўныя патрэбы людзей,—усё гэта розныя аспекты адной вялікай праблемы. Гэта праблема стала тэмай спецыяльнага сімпозіума, які адбыўся ў Доме творчасці савецкіх кінематаграфістаў «Рэпіна» (пад Ленінградам).

Сімпозіум паказаў, што работы вучоных сацыялістычных краін ствараюць агульную карціну месца і ролі кіно і тэлебачання ў жыцці сацыялістычнага грамадства, падкрэсліў велізарны ўплыў экраннага мастацтва на аўдыторыю гледачоў, яго высокую выхаваўчую місію.

Гэтыя даследаванні маюць вялікае значэнне не толькі ў дастасаванні да самой праблемы ўзаемаадносін мастацтва і гледача. Вывучаючы глядзельную аўдыторыю, вучоныя кранаюцца самых розных з'яў грамадскага жыцця. Вось адзін маленькі прыклад, які прывёў доктар філасофіі Крысцю Гаранаў з Балгарыі. Пры вывучэнні прычын міграцыі сельскай моладзі другім па значнасці фактарам, які садзейнічае міграцыі, было названа нездавальняючае кінаабслугоўванне ў сельскай мясцовасці. І ў сувязі з гэтым дзяржаўнымі арганізацыямі былі прыняты адпаведныя меры.

Вядомы польскі сацыёлаг прафесар Казімеж Жыгульскі гаварыў аб вялікім сацыялагічным даследаванні, праведзеным у рамках ЮНЕСКО. Аб'ектам вывучэння сталі кінагероі фільмаў шасці розных краін. Атрыманыя вынікі дапамагаюць даволі ясна меркаваць не толькі аб напрамку кінамастацтва гэтай краіны, але і малююць вельмі пэўную карціну грамадскага жыцця.

Некалькі гадоў назад у ГДР найбольшай папулярнасцю карысталіся дэтэктыўныя, прыгодніцкія фільмы. Нядаўняе даследаванне, праведзенае Берлінскім інстытутам кіно і Цэнтральным інстытутам вывучэння маладзёжных праблем у Лейпцыгу, паказала, што сёння маладыя гледачы больш ахвотна глядзяць фільмы аб «сэнсе жыцця», у мастацтве яны шукаюць сустрэч з моцнымі, духоўна багатымі героямі, якіх можна было б пераймаць.

З цікавымі паведамленнямі аб сваіх сацыялагічных даследаваннях выступілі савецкія вучоныя. Нярэдка тэлебачанне спрабуюць разглядаць як канкурэнта іншых відовішчных мастацтваў. А вось даследаванні, праведзеныя сярод сельскіх жыхароў Эстонскай ССР, паказалі, што незалежна ад бурнага росту тэлебачання (сёння ў Эстоніі практычна кожны жыхар мае магчымасць глядзець тэлепраграмы і слухаць радыё) большасць апытаных не сталі радзей хадзіць у тэатр, на канцэрты, на выстаўкі. У цэлым жа ў сельскай мясцовасці ў СССР назіраецца рост наведвання кіно.

Матэрыялы сімпозіуму яшчэ раз пацвярджаюць тую велізарную ролю, якую адыгрываюць кіно і тэлебачанне ў жыцці грамадства і важнасць даследаванняў, якія вядуцца мастацтвазнаўцамі і вучонымі сацыялістычных краін.

Практычныя вынікі розных па сваім характары даследаванняў закладваюць трывалую базу для далейшых работ. Роздум і ўзаемны ўплыў глядзельнай аўдыторыі кіно і тэлебачання—гэта не размова аб чыста статыстычных дадзеных, аб колькасці прададзеных білетаў, а ў першую чаргу размова аб тых маральна-эстэтычных каштоўнасцях, што прапануюцца той ці іншай аўдыторыі творамі тэле- або кінамастацтва.

Сёлетні сімпозіум быў другім пасля сустрэчы кіназнаўцаў сацыялістычных краін у 1969 годзе ў Берліне. Наступная сустрэча адбудзецца ў 1971 годзе ў Венгрыі.

(АДН).

# ВЯСЁЛАЯ ТРАСЯНКА

## ЖАРТЫ, ГУМАРЭСКІ, ПАРОДЫІ, ЭПІГРАМЫ, ШАРЖЫ

Аляксандр АЛЯКСЕЙЧЫК

### СУСТРЭЧА

*ГУМАРЭСКА*

— ГРЫША, дружа, колькі лет, колькі зім! — хтосьці моцна абхапіў мяне за плечы.

Я азірнуўся. Перада мной стаяў незнаёмы мужчына.

— Вы памыліліся, грамадзянін, — сказаў я. — Ніякага Грышы я не ведаю.

— Даруйце, калі ласка, — мужчына паглядаў на мяне з недаверам. — Памыліўся... Але вы вельмі падобны на Грышу, майго знаёмага. А вы нават і не чулі пра Грышу Войцікава?

— Не, не чуў, — адказаў я. І пайшоў, бо вельмі спяшаўся.

Але мужчына не адставаў. Ён ішоў крыху ззаду і гаварыў:

— Ну, дальбог, ні разу не бачыў, каб людзі былі так падобны. Як дзве кроплі вады. Можа ён ваш брат ці так які сваяк?

— Я ж вам сказаў, што ніякага Грышы Войцікава я не ведаю.

Мужчына не збянтэжыўся.

— Вось жа бывае, га? А я ўжо думаў, што гэта Грыша. Мы з ім у адным класе вучыліся. А потым разыйшліся. Уга, колькі ўжо гадоў мінула. А от сёння прыехаў у горад і на табе — Грыша ідзе! Адразу пазнаў, хоць прайшло, пэўна, гадоў пятнаццаць.

Я спыніўся і ўжо зласнавата прагаварыў:

— Я ж зусім не Грыша!

— Кінь, дружа, я заўсёды ведаў, што ты вялікі жартаўнік. Раскажы лепш, дзе ты і як, ці добра маешся.

— Нічога, — кажу, — дзякую.

— Малайчына! А дзеткі ёсць?

— Ёсць. Хлапчаня.

— Ну, віншую, брат! Можа ўсё ж адзначым сустрэчу, га?

— Выбачайце, але не магу. Вельмі спяшаюся.

— Ведаю, ведаю, ты цяпер вялікім начальнікам стаў. Ужо ўпраўленнем камандуеш?

— Не, пакуль у намесніках хаджу.

— Ну, усёроўна, справы, справы... А я, ведаеш, прыехаў, іду, гляджу — ажно Грыша! Гэта ж гадоў дзесяць не бачыліся.

— Пятнаццаць, — паправіў я.

— Так, малайчына, памятаеш. І вось толькі ўбачыў цябе, а ты ўжо ўцякаеш. Дрэнна, Грыша!

— Але ж, ведаеце, я сапраўды спяшаюся.

— Канечне, для старых сяброў у цябе і часу няма.

Я зазлаваў:

— Што вы, урэшце, ад мяне хочаце?

— Нічога, — адказаў мужчына. Што ты, Грыша... Вось толькі... Ты ж ва ўпраўленні працуеш? Можа нашаму камбінату памог бы станок атрымаць, га?

— Ну, добра, — сказаў я. — Прыходзьце ў пятніцу раніцой.

— Грыша, ты малайчына! — мужчына ўхапіў маю руку і затрос яе. — Я так і ведаў, што ты дапаможаш. Як жа — стары сябра! Да пятніцы, дружа.

І ён павярнуў у завулак.

Іван МУРАВЕЙКА

### ДЗЕНЬ УЗОРНАГА АБСЛУГОЎВАННЯ

**У магазіне—чысціня, парадак.**
**Не магазін, а проста—зямны рай.**
**А вочы прадаўцоў на ўсіх**
**праменяць радасць,**
**А ветлівасці столькі —**
**хоць ты адбаўляй.**

**На ўсю сцяну—плакат,**
**аздоблены сузор'ямі**
**Рознакалёрных лямпачак, гірлянд,**
**вянкоў:**
**«Сягоння ў нас—дзень**
**абслугоўвання ўзорнага**
**Любімых, дарагіх пакупнікоў».**

**Але чамусь казалі так пакупнікі:**
**— О, каб не дзень, а год праводзілі**
**такі!**

Марк СМАГАРОВІЧ

### НАСТЫРНЫ ЛЯВОН

Пегаса асядлаў Лявон,
Адолеў спрэчак буру,
Не ўехаў, а ўламаўся ён
У літаратуру.

### НЕДАСВЕДЧАНАЯ МАЦІ

**— Раман душу перавярнуў мне, мама!**
**Такі раман... Такая рэч...**
**А маці выпаліла: — Хама**
**Гані, мая дачушка, прэч!**

К. ПАЎТАРЖЫЦКІ

### СОРАМ

**— Чаму ты вочы закрываеш,**
**Калі «Маскоўскую» глытаеш!**
**— Пакляўся жонцы я, што болей**
**Не гляну ў шклянку аніколі.**

*ПАТЭНТ НЕ РЭГІСТРАВАНЫ*

Мал. А. ЗАУЯЛАВА.





— Цяпер не вылезе!..



## ПЯРОМ ЯК ТАПАРОМ

*«Матэрыяльнае становішча маё цяжкае, таму што не маю мужа і іншых крыніц даходу».*

□

*«Дзверы тэхнікума расчыніліся і выпусцілі са сваіх абдымкаў сваіх любімых вучняў».*

□

*«Я знаходжуся на краі абрыву свайго існавання».*

□

*«Становішча маё кепскае. Сохну, як палена, і жыву выключна на вадзе».*

□

*«Суд аб'явіў мне вымову за нявыхад на працу ў п'яным выглядзе».*

□

*«Сусед аблаяў мяне рознымі ананімнымі словамі».*

□

*«Я ўжо дзесяць гадоў жыву несамастойным жыццём, таму што ў мяне няма кватэры».*

□

*«Выключыць са штатаў у сувязі са смерцю. Аснова: згодна з пададзенай заявай».*

□

*«Сёння ў клубе сем грэшнікаў».*

□

*«Прашу вас адпусціць без штрафу сівую кабылу і гнядога, бо яны ездзілі ў госці і трапілі туды не па сваёй ахвоце».*

Сабраў А. ЛЕШЧАНКА.

Н. ПАРУКАЎ

## МІЖ ІНШЫМ

Той, хто жыве чужым розумам, расплачваецца сваёй галавой.

□

Часам здараецца, што і чарвяк высока ўзбіраецца.

□

Пляткар — гэта той, у каго ў роце не язык, а брудны квач, якім ён пэцкае пры цябе іншых, а пры іншых—цябе.

□

Паэт, баючыся, каб крытыкі не палічылі яго эгаістам, ніколі не меў у вершах уласнай думкі.

□

Хто не мае сілы адпомсціць, той носіць камень за пазухай.

□

І гумар бывае сатырай для таго, над кім смяюцца.

□

Дрэнны чалавек гаворыць пра людзей толькі дрэннае, спадзеючыся гэтым пераканаць, што і ён не горшы за іншых.

□

Салавей песнямі не сыты, але і без песень жыць не можа.

□

«Дальбог, не брашу»—любімая прымаўка хлуса.

Марцін КОЎЗКІ

## ФРАЗЫ

Хаос — гэта такі парадак, які цяжка парушыць.

□

Ці працуе час на тых, хто часова не працуе?

□

Склероз: немагчымасць успомніць тое, што нельга забыць.

□

Што такое калектыўны сад? Індывідуальныя агароды.

□

— Ёсць у ёй нешта ад праўды, — гаварылі пра хлусню.

□

Памылкі маладосці ў аўтабіяграфіі відаць былі па арфаграфіі.

□

На твары ў яго было напісана такое, што паказвацца з ім можна было толькі сярод непісьменных.

Павел САКОВІЧ

## БАЙКІ-КАРАЦЕЛЬКІ

### ПОМСТА

Бутэльку гарэлкі ўзялі за горла. Але яна адпомсціла за сябе: праз гадзіну «крыўдзіцеля» знайшлі ў непрытомным стане.

### ДАРЭМНЫ ПРЫХОД

На вялікі жаль, думкі часта прыходзілі да яго тады, калі ў яго, як кажуць, не ўсе былі дома.

### ПРАСПЕКТЫЎНЫ СПЕЦЫЯЛІСТ

Маладога архітэктара пакінулі ў цэнтры: ён мог праспектыўна мысліць.

### ФІЛОСАФ

Стоячы пад дзіравым дахам, жыхар уздыхаў:

— Усё цячэ, ды не ўсё мяняецца...

С. ВАНІН

## ВЫПАДКІ

— Мама, а чаму гэты фільм дзецям глядзець не дазваляецца?

— А от паглядзіш, дачушка, — сама зразумееш.

●

— Як ваш новы загадчык?

— Нічога сабе...

— А наш усё сабе!

●

— Сорам! У нашым двары дзеці цэлымі днямі рэжуцца ў карты, а дарослыя праходзяць міма.

— Я ўчора прыпыніўся, дык траяка прайграў.


«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах.
Друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі

[redacted] Індэкс 63856. АТ 210033

Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25 адказнага сакратара — 33-44-04 аддзела літаратуры — 33-22-04. аддзела тэатра кіно і музыкі — 33-24-62. аддзела выяўленчага мастацтва архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-24-62 аддзела культуры — 33-21-53, выдавецтва — 32-22-19 бухгалтэрыі — 32-15-87.

Рукапісы не вяртаюцца.